ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

10 ЛІСТАПАДА 1995 г. № 45 (3817) Кошт 2 500 руб.

## СПАЧУВАННЕ Ў АДКАЗ

***Віктар КАВАЛЕНКА: "Ніяк не магу зразумець, чаму, чытаючы К. Маркса і паважаючы У. Леніна, нельга быць прыхільнікам бел-чырвона-белага сцяга. Дзе тут карэнная супярэчнасць? Хіба што яна абстрактна тэарэтычная? Як за бел-чырвона-белым сцягам стаіць і мінулае і сучаснае, так і за імем У. Леніна стаіць мінулае і сучаснае. Жыццё шматплыннае. Магчыма, гэта памылка бальшавікоў, што яны побач з партыйным чырвоным сцягам не прынялі старой дзяржаўнай атрыбутыкі. Гэта кансалідавала б народ і дзяржаву".***

**3, 6**

## ЯК ПАЧУВАЕШСЯ, ФЕМІДА?

***Вадзім КАНДРАЦЬЕЎ: "Нам даводзіцца чуць папрокі ад некаторых уладных структур за тое, што мы, наадварот, занадта шмат людзей "саджаем", іх няма куды змяшчаць, усе месцы зняволення — следчыя ізалятары, калоніі, турмы — перапоўнены, а новыя не будуюцца, бо няма сродкаў".***

**5, 12**

## КАРОТКІЯ АПАВЯДАННІ

***Івана ЧЫГРЫНАВА***

**8-9, 14-15**

## ЗНОЎ ПРА "ТУТЭЙШЫХ"

***Расціслаў ПЛАТОНАЎ: "На некаторы час пытанне аб "Тутэйшых" з парадку дня было знята. Аднак у сувязі з разгортваннем барацьбы супраць нацыянал-дэмакратызму і падрыхтоўкай палітычных працэсаў пачатку 30-ых гадоў, у якіх Купалу адводзілася роля "ідэолага" нацыяналістаў, пра п'есу ўспомнілі зноў".***

**13**

### БУДЗЬМА РАЗАМ!

Паважаныя прыхільнікі "ЛіМа"! Працягваецца падпіска на газеты і часопісы на першае паўгоддзе 1996 года. Як і ўсе папярэднія, яна хуткацечная; а таму — не адкладайце на заўтра тое, што варта зрабіць сёння. Падпішыцеся на "ЛіМ" — і наш тыднёвік будзе сам прыходзіць да Вас кожную пятніцу. Гэта пазбавіць Вас неабходнасці шукаць "ЛіМ" у шапіках "Саюздруку", да таго ж кошт аднаго нумара па падпісцы значна таннейшы. *Падпісны кошт на 1 месяц — 6000 рублёў, на 3 месяцы — 18000 рублёў, на 6 месяцаў — 36000 рублёў.*

**Наш індэкс — 63856.**



*Тут нячутна людскіх галасоў,*
*Сонна лісце злятае з кустоў*
*І знікае ў зжаўцелай траве,*
*І з аблокамі ў небе плыве,*
*І калодзеж у неба глядзіць...*
*Час ідзе і яго не спыніць.*

*Гэты здымак наш фотакар А. МАЦЮШ зрабіў у Прыпяцкім гідралагічна-ландшафтным запаведніку.*

Святы

# ПАСМЯЯЛІСЯ І ШМАТ НАД ЧЫМ ЗАДУМАЛІСЯ...

Мы паведамлялі ўжо пра мерапрыемствы, звязаныя з 75-годдзем Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, змясцілі шэраг матэрыялаў, прысвечаных слаўнаму шляху, пройдзенаму гэтым вядомым калектывам. Сёння — яшчэ пра адну ўрачыстасць. Правільней — пра кульмінацыйны момант святкавання юбілею. 1 лістапада ў тэатры, як кажуць, яблыку не было дзе ўпасці. Сабраліся самі віноўнікі ўрачыстасці, прадстаўнікі грамадскасці, прыйшлі прыхільнікі купалаўцаў.

Адбылося па-сапраўднаму тэатральнае відовішча, у якім знайшлося месца і развагам аб набытках калектыву, і жартам, і песням, і танцам. Адным словам — гуляць, дык гуляць...

Вельмі незабыўны момант — вітанне старэйшыны тэатра імя Янкі Купалы, патрыярха беларускай сцэны народнай артысткі СССР С. Станюты. Стэфанія Міхайлаўна — жывая гісторыя калектыву, той чалавек і акцёр, які мае самае непасрэднае дачыненне да яго поспехаў. Як і іншыя прадстаўнікі старэйшага пакалення купалаўцаў. І тыя, хто, на жаль, пайшоў ужо з жыцця, і тыя, хто па-ранейшаму знаходзіцца ў творчым страі, няхай і не заўсёды такім актыўным як раней.

Іх таксама згадалі на вечары. Мёртвых ушанавалі маўчаннем, жывых — апладысментамі. Апладысменты выпалі і на долю тых, хто прадаўжае справы сваіх знакамітых папярэднікаў — ярадстаўнікоў сярэдняга пакалення купалаўцаў, а таксама творчай моладзі, у тым ліку і нядаўніх выпускнікоў Акадэміі мастацтваў, якія ўліліся ў трупу літаральна некалькі месяцаў назад.

З прывітаннем калектыву тэатра ў сувязі з яго 75-годдзем звярнуўся Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнка. Аляксандр Рыгоравіч, у прыватнасці, зазначыў: "Тэатр, які носіць імя вялікага беларускага песняра і з любоўю завецца ў народзе Купалаўскім, з'яўляецца гонарам нацыянальнай культуры і мастацтва. У гісторыі гэтага вядучага творчага калектыву Беларусі адлюстраваны амаль усе галоўныя працэсы духоўнага жыцця народа, яго складаны і цярністы шлях да волі і лепшага лёсу, спрадвечнае законнае жаданне "людзьмі звацца". За гады існавання тэатра імя Янкі Купалы плённа акумуліраваў на сцэне самабытны мастацкі



*Купалаўцаў віншуе даўні сябар тэатра драматург Аляксей ДУДАРАЎ.*

талент народа, стаў сапраўднай акадэміяй эстэтычнага выхавання чалавека, стварыў шэраг выдатнейшых спектакляў, кожны з якіх сёння з'яўляецца для нас гісторыка-мастацкім дакументам свайго часу. Паклаўшы ў аснову рэпертуару нацыянальную драматургію, тэатр імя Янкі Купалы ніколі не абмяжоўваў сябе нацыянальнымі рамкамі. Многія спектаклі, пастаўленыя па творах рускай і зарубежнай класікі, сталі сапраўднымі сцэнічнымі шэдэўрамі і ўзнялі яго на ўзровень лепшых еўрапейскіх тэатраў".

Дарэчы, прэзідэнт выступаў па-беларуску. Па-беларуску прамовіў ён і не афіцыйную, так бы мовіць, частку свайго выступлення, калі, звяртаючыся да прысутных, зазначыў, што гатовы пайсці на кантакт з работнікамі культуры і ў бліжэйшы час мае намер сустрэцца з імі. Што ж, калі б і на самай справе словы не разышліся са справай...

Але — пра само святкаванне. Вітанняў было нямала. Выступалі старшыня Беларускага саюза тэатральных дзеячаў А. Дудараў, дырэктара тэатра оперы і балета С. Картэс, народны паэт Беларусі Р. Барадулін (канечне ж, прысвяціў юбілярам верш!), народны артыст СССР І.Лучанок (зразумела, без песень не абышлося!), народная артыстка СССР А. Клімава і іншыя. Найчасцей шаноўныя творцы выступалі як прадстаўнікі тэатраў, у якіх працуюць. Гэта тычылася і гасцей, што прыехалі з замежжа.



*На сцэне Стэфанія СТАНЮТА.*

А каб сур'ёзныя развагі належным чынам стыкаваліся з жартаўлівымі (і нават сатырычнымі) момантамі, стараўся заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі В. Анісенка, які выступаў у якасці вядучага. Са сваімі абавязкамі ён справіўся няблага. Ва ўсякім разе, гледачы ў зале і пасмяяліся, і шмат над чым задумаліся. Пэўна ж, над многім задумаліся і дзяржаўныя мужы, што знаходзіліся ў прэзідыуме.

А наконт смеху, дык — смяецца той, — хто смяецца апошнім...

**Н.К.**

журналістаў. — Гімнам жа звычайна адкрываецца новая сесія парламента. Ці не будзе ператворана гэтая нарада ў першую сесію новага Вярхоўнага Савета?"

Напружанне ў прэс-цэнтры адразу ўзрасло. Мне ж згадалася прамова прэзідэнта, што прагучала днямі на адкрыцці новага моста праз Днепр у Магілёве. Там А. Лукашэнка сказаў, што ўсё больш схіляецца да думкі ўвесці ў краіне прамое прэзідэнцкае кіраванне. Ці не выкарыстае ён для яе абвяшчэння гэтую нараду тым больш, што на ёй прысутнічаюць і кіраўнікі выканаўчай улады з абласцей?

Не, гэтага не адбылося, як і спробы аб'явіць нараду сесіяй новага парламента. Хоць быў момант, калі падалося, што такое можа здарыцца. Гэта калі прэзідэнт у сваёй больш як гадзіннай прамове пачаў даводзіць, што і нанова абраныя 119 дэпутатаў (з 260, прадугледжаных законам, — **М.З.**) могуць стварыць дзеяздольны орган заканадаўчай улады. У Малдове, краінах Прыбалтыкі парламенты, маўляў, складаюцца з яшчэ меншай колькасці членаў, і, нічога, спраўляюцца. Але, відаць, на такі дзёрзкі выклік Канстытуцыі, закону аб Вярхоўным Савеце прэзідэнт усё-такі не рашыўся.

Як і можна было чакаць, асноўны крытычны пафас прэзідэнцкага выступлення быў скіраваны супраць існуючага Вярхоўнага Савета, які, маўляў, чапляецца за ўладу, імкнецца працягваць сваю дзейнасць. Крайняе незадавальненне выказаў Аляксандр Рыгоравіч і Канстытуцыйным судом, які нібыта палітызаваўся і нелаяльна ставіцца да прэзідэнцкай улады.

Прэзідэнт, па сутнасці, заклікаў наноў абраных дэпутатаў ігнараваць апошнія рашэнні Канстытуцыйнага суда, у першую чаргу — аб прызнанні адпавядаючымі Канстытуцыі папраўак да выбарчых законаў адносна змяншэння квоты выбаршчыкаў, што, па словах А. Лукашэнкі, "заклала міну запаволенага дзеяння пад будучы парламент". Ён, прэзідэнт, асабіста гэтыя заканадаўчыя акты не прызнае і "адмяжоўваецца ад маючых адбыцца паўторных выбараў у Вярхоўны Савет". Адразу згадалася тэлевыступленне прэзідэнта напярэдадні майскіх выбараў у Вярхоўны Савет, у час якога ён сказаў, што галасаваць за вылучаных кандыдатаў у дэпутаты не будзе, бо яны "ўсё роўна падмануць". Фраза гэтая тады пэўным чынам паўплывала на актыўнасць выбаршчыкаў. Тое самае можа адбыцца і цяпер, хіба толькі, што сёння важкасць прэзідэнцкага слова ўжо не такая, як паўгода назад.

Але будзем справядлівымі — не ўсё так "змрочна" прагучала ў выступленні Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі. Думаю, што ягоным электаратам будуць з натхненнем успрыняты словы аб пазітыўных зменах у эканоміцы, што адбыліся за час лукашэнкаўскага прэзідэнцтва: у шмат разоў зменшылася інфляцыя, упарадкавана грашова-фінансавая сістэма, Беларусь упершыню за апошнія гады сустракае зіму з трывалым запасам энергарэсурсаў, ёсць станоўчыя зрухі ў знешнеэканамічнай дзейнасці ўрада, "размарожана" жыллёвае будаўніцтва. "Я даў заданне кіраўніку Адміністрацыі прэзідэнта М. Мясніковічу, з якім мы разам былі ў ЗША на святкаванні 50-годдзя ААН і шмат паездзілі па краіне, — сказаў Аляксандр Рыгоравіч, — пераняць вопыт будаўніцтва жылых дамоў у Амерыцы."(?)

Надзвычай цёплыя словы прагучалі з вуснаў прэзідэнта ў адрас новых дэпутатаў-камуністаў. Ён падкрэсліў, што ў жніўні 1991 года пэўныя сілы на Беларусі хацелі адправіць камуністычную партыю ў нябыт, а сёння мы бачым сярод народных абраннікаў шмат камуністаў і ніводнага прадстаўніка апазіцыі. З пахвалой азваўся прэзідэнт аб **працоўным сялянстве.** З чаго можна было прыйсці да высновы, што ў краіне існуе і сялянства непрацоўнае. Мабыць, фермеры...

На нарадзе прагучала таксама выступленне спікера парламента М.Грыба, які, абвергнуўшы некаторыя крытычныя заўвагі прэзідэнта, расказаў аб заканатворчай дзейнасці Вярхоўнага Савета 12-га склікання, заклікаў А. Лукашэнку зрабіць усё магчымае, каб маючыя адбыцца выбары прайшлі паспяхова.

З аналізам падрыхтоўкі і правядзення выбарчай кампаніі выступіў старшыня Цэнтрвыбаркама А. Абрамовіч.

Сваімі думкамі аб працы будучага парламента падзяліўся шэраг абраных туды дэпутатаў.

...Завяршыць гэтую нататку мне хочацца ўсё-такі на аптымістычнай ноце. Паводле згаданага астралагічнага прагнозу, у канцы лістапада (акурат на выбары) Сатурн і іншыя зоркі нарэшце павернуцца да нас "тварам". Як кажуць у такіх выпадках, амінь!

**М. ЗАМСКІ**

Адгалоскі

# СПАЧУВАННЕ Ў АДКАЗ

***Газета "Товарищ" ад 4 жніўня гэтага года змясціла пад знішчальна-абразлівай рубрыкай "Пярэваратні" артыкул "Спачуванне акадэміку" члена-карэспандэнта Акадэміі навук Беларусі А. Жураўскага на традыцыйную ўжо для гэтага вучонага тэму, які актыўна заняўся ў апошні час палітычнай публіцыстыкай. Тэма гэтая — ганьбаванне адмененай у выніку гэтак званага рэферэндуму нацыянальнай сімволікі і ўхваленне самога рэферэндуму. Спрачацца па сутнасці пытанняў і праблем з А. Жураўскім няма, напэўна, ніякага сэнсу, бо па пытаннях сімволікі мы абодва не з'яўляемся спецыялістамі. Усё ўжо намі сказана і тут можна толькі бясконца штэмпеляваць праштэмпеляванае. Што, дарэчы, А. Жураўскі ахвотна робіць: упарта паўтарае з артыкула ў артыкул адно і тое ж, не развіваючы пазіцыю і не дабаўляючы аргументаў, абыходзячы нявыгадныя яму доказныя факты і вывады тых, хто палемізуе з ім. І, як ні дзіўна, не імкнецца да паглыблення дасведчанасці ў пытаннях, па якіх асмельваецца выступаць. Напрыклад, А. Жураўскі не стамляецца паўтараць, што бел-чырвона-белы сцяг "калабаранцкі", але гісторыкі ўжо назапасілі нямала фактаў, якія сведчаць, што гэта далёка не так (В. Насевіч. Гэты сцяг пачынаўся так... "Чырвоная змена", 20 красавіка 1995 г.).***

У артыкуле, надрукаваным газетай "Товарищ", А. Жураўскі выказвае спачуванне той часткі беларускай інтэлігенцыі, якая выступіла супраць прапановы прэзідэнта праводзіць рэферэндум. І далей ён піша: "Такога спачування ў першую чаргу заслугоўвае дырэктар акадэмічнага Інстытута літаратуры акадэмік Віктар Каваленка. Столькі намаганняў прыклаў ён у апошні час па процідзеянню палітыцы прэзідэнта і асабліва па ўсхваленню колішняй калабаранцкай сімволікі ў выглядзе герба "Пагоня" і бел-чырвона-белага сцяга — і ўсё аказалася дарэмным!"

Дзякуй А. Жураўскаму за вылучэнне маёй персоны на перадавы рубеж. Мне думалася, што мае заслугі ў гэтым кірунку куды больш сціплыя, каб можна было "спачуваць" мне "ў першую чаргу". Але я прымаю камплімент. Чаго я не прымаю, дык гэта самога спачування. Яго я з поўным асабістым пераканаццем апраўданасці пераадрасоўваю майму апаненту. Падставы? Іх нямала. Па-першае, "дарэмна" ці "не дарэмна" — гэта пакажа час. А пакуль недастатковая дасведчанасць аўтара артыкула ў філасофіі і практыцы грамадскага жыцця відавочная. Ён трымаецца за павярхоўны канон разумення праблемы, які заключаецца ў тым, што быццам бы большасць не памыляецца. Напэўна, дарэмна нагадваць яму хрэстаматыйныя гістарычныя факты зусім адваротнага выніку, калі ён не згадаў пра іх сам. Аднак карысна будзе, відаць, прывесці словы з прамовы сучаснага прэзідэнта Балгарыі Жэлю Жэлева, агалошанай ім на нядаўняй канферэнцыі ў Берліне: "Не менш трывожнае імкненне звесці дэмакратыю да дыктату большасці. У гэтым кантэксце ўсяляе надзею прынцыповая пазіцыя балгарскага Канстытуцыйнага суда, які ў некалькіх крызісных сітуацыях абараніў права грамадства быць кіруемым у рамках канстытуцыі, а не палітычнай волі большасці". Па-другое, у мяне як і ў многіх іншых, хто не падтрымліваў ідэю рэферэндума, ніколі не было ілюзіі, што вынікі рэферэндуму, калі толькі ён адбудзецца, могуць быць інакшымі. З самага пачатку было зразумела, што гэта беспройгрышная палітыканцкая гульня. Хоць не хачу хаваць: не гэтак вынікі рэферэндума, колькі сам факт яго правядзення, як і ў многіх іншых беларускіх інтэлігентаў, выклікаў у мяне вострае і працяглае пачуццё расчаравання і суму. Калі ж гаварыць пра вынікі, то вынікаў станоўчых, як паказвае ход падзей апошняга часу, няма і быць не можа, бо акцыя гэтая праведзена насуперак цывілізаванай традыцыі свету, з нячыстым разлікам яго ініцыятараў на недасведчанасць "масавага чалавека". Дарэчы, да ведама беларускага вучонага-мовазнаўцы, які так нястрымна радуецца публічна за вынікі рэферэндуму: нядаўна на рэспубліканскай канферэнцыі малдаўскія вучоныя нават саму ідэю правядзення рэферэндуму па праблеме нацыянальнай мовы аднадушна прызналі не інакш, як абсурднай ("Навіны Акадэміі навук Беларусі", 22 верасня 1995 г.). І трэцяе. Сапраўды, нячаста, мабыць, можна сустрэць вучонага значнага навуковага аўтарытэту ў сваёй галіне дзейнасці, які, выказваючыся па палітычных пытаннях, так настойліва ігнараваў бы жывыя палітычныя рэаліі сённяшняга дня, дэманструючы выключную нячуйнасць да настрою ўсёй свядомай нацыянальнай інтэлігенцыі. Адмоўная ацэнка рэферэндуму дадзена без перабольшання ўсімі віднейшымі пісьменнікамі і паэтамі рэспублікі. А. Жураўскі ж піша, што, акрамя В. Каваленкі, заварушыліся толькі нейкія там студэнты. Гэта звычайны падман недасведчанага чытача або ўласная недасведчанасць аўтара. Аб накіраванасці настрою нацыянальна свядомай інтэлігенцыі сведчыць апошнім часам апублікаваны нядаўна артыкул выдатнага паэта, дэпутата Вярхоўнага Савета А. Вярцінскага з красамоўным загалоўкам і падзагалоўкам: "Дык ці адбыўся рэферэндум? Або анатомія адной палітычнай авантуры". ("Літаратура і мастацтва", 22 верасня 1995 г). Але якраз такую інтэлігенцыю вучоны адносіць да "антынацыянальных сіл". Што ні кажыце, але тут ёсць нейкая загадка, бо міжвольна ўзнікае пытанне: ну чаму былая савецкая сімволіка мілей партызану А. Жураўскаму, чым афіцэру-франтавіку В. Быкаву, партызану, ужо нябожчыку А. Адамовічу, сынам партызанаў Н. Гілевічу, Р. Барадуліну і іншым? Аднак шукаць адказу на гэта пытанне чамусьці не хочацца. Дык прыміце ж, шаноўны Аркадзь Іосіфавіч, маё спачуванне ў адказ. Спадзяюся, яно ў час і да месца.

Не буду я і апраўдвацца ў тым, што я, маўляў, не "пярэварацень". Хачу аднак "павіншаваць" газету "Свабода" з замілавальным адзінствам у асвятленні маёй персоны з газетай "Товарищ", а С. Дубаўца, яго прыхільнікаў і абаронцаў, як аднадумцаў А. Жураўскага, новага іх "товарища", які з сардэнічным задавальненнем спасылаецца ў сваю карысць на яго нататку, апублікаваную ў газеце "Свабода" (1995, N 15). Я ведаю, што не адна кампанія, але ўсё ж...

Закрану толькі адну важную праблему, якая стала канструктыўна апорнай у абвінаваўчым пафасе выступлення А. Жураўскага — праблему вернасці мінуламу, мінуламу гістарычнаму і свайму ўласна пражытаму часу. Гэтая праблема не-не ды і закранаецца ў сродках масавай інфармацыі, абмяркоўваецца ў навуковых працах, што не дзівіць, бо гэта адна з тых праблем, у якой канцэнтруюцца сёння важнейшыя палітычныя інтарэсы грамадства. Праўда, у выданнях антыдэмакратычнага накірунку, як і ў артыкуле А. Жураўскага, яна выступае ў вельмі прымітыўнай, прадузятай пастаноўцы.

Трохі пераказу для ўводзін у справу. А. Жураўскі папракае мяне перш за ўсё ў кан'юнктурных разліках у пагоні за кар'ерай, за ідэйную здраду камуністычным ідэалам і савецкаму часу наогул, калі, аказваецца, на мяне сыпаліся прэміі, узнагароды, званні ад савецкай улады, а я, няўдзячны, у перыяд перабудовы зрабіў невераґодны кульбіт, павярнуў у адваротны бок, змяніў курс, як ён піша, "на цэлых 16 румбаў" (я, будучы літаратуразнаўцам, прызнацца, на мой сорам, не вельмі разбіраюся ў мораплавальнай тэрміналогіі і не ведаю, у параўнанні з мовазнаўцам, шмат гэта ці мала; відаць, шмат), стаў

*(Працяг на стар. 6)*

## ЗАЛАТАЯ ВОСЕНЬ У НЯСВІЖЫ



**Нясвіж — адзін з старадаўніх і прыгажэйшых гарадоў Беларусі. У сівыя стагоддзі сягаюць ўпамінанні пра яго. Да нашых дзён захаваўся палац Радзівілаў, ганарацца жыхары Нясвіжа і сваім паркам, які размясціўся паміж сажалкамі на плошчы ў 120 гектараў. Асабліва прыгожа тут залатой восенню, калі пад нагамі шамаціць рознакаляровая лістота і "пышное природы увяданье" зачароўвае душу.**



*На здымках: у шызым тумане раніцы амаль з усіх бакоў бачыць падарожнік веліч палаца Радзівілаў; восень у Нясвіжскім парку.*

*Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛТА*

## НОВЫ ЦЭНТР НА ВІЦЕБШЧЫНЕ

**Намаганнямі краязнаўцаў некалькіх раёнаў Віцебшчыны створаны культурна-асветніцкі цэнтр імя Язэпа Драздовіча. Асноўная мэта цэнтра — падтрымка культуры рэгіёна, краязнаўства, навуковых даследаванняў, звязаных з гісторыяй Прыдзісенскага краю. (Нагадаем, што Браслаўскі, Глыбоцкі, Мёрскі, Пастаўскі, Шаркоўшчынскі раёны калісьці ўваходзілі ў адзін павет.)**

**Плануецца правядзенне навукова-асветных канферэнцый, экспедыцый, выстаў, фестываляў, а таксама выдавецкая і грамадская дзейнасць.**

**На сённяшні дзень ужо зарэгістраваны статут цэнтра. Старшынёй абраны Міхась Райчонак, адзін са стваральнікаў Германавіцкага музея мастацтва і этнаграфіі імя Язэпа Драздовіча. У склад рады ўвайшлі такія вядомыя ў вобласці краязнаўцы, як К. Шыдлоўскі, К. Кожан, А. Райчонак, Г. Рымдзёнак.**

**Як і большасці недзяржаўных арганізацый, цэнтру патрабуецца матэрыяльная падтрымка. Пакуль што толькі Віцебскае аддзяленне Фонду Сораса ўзяло на сябе гэты клопат.**

**Адно з першых мерапрыемстваў (сумесна з раённымі аддзеламі культуры) — фэст маладых краязнаўцаў. Дата яго правядзення — 29 кастрычніка.**

**Г.З.**

Рыгор БАРАДУЛІН

# ДУРНОТЫ

### ХОЧАЦЦА

**Ветэранаў смершаўцаў,
штабнікоў,
Хоць таксама кандыдатаў у старцы,
Хочацца,
Як ад лускі шчупакоў,
Абадраць ад бляшанак
На востраў тарцы.**

### КОЖНЫ САМ

**Кожны сам сабе баран,
Кожны сам сабе вароты
Выбірае на таран,
І авечку — на залёты.
Зрэшты, пан баран
За ўчынкі
Застаецца без аўчынкі.**

### ПРЫНЯЦЬ

**Цыган па драбінах
Дзярэцца ў неба...
І гэта не ў казцы,
Не ў цырку.
Драбіны прыняць
Ці прасіць нам трэба
Прыняць яго ў
Чорную дзірку.**

### ПРА БЫЛОСЦЬ

**Былыя прысмакі ўзгадаць
Саладзей.
Хрэн вялы ўпадзе,
Як яго ні выстаў.
Адно не бывае былых б...дзей,
Таксама,
Як і былых кэгэбістаў.**

### ТАМУ

**А показка нездарма
Гаворыць
Пра райскі кут:
Там добра,
Дзе нас няма.
Таму і жывём мы тут!**

### СЛАБЫ ПІТОК

**Хай цэдзіць іншы ўзвар,
Ён над гарэлкай лоб гне,
Хаця, як той камар,
Ён п'е —
Пакуль не лопне.**

### ЗРОБІЦЦА

**Яблык,
Як з казкі клубок-калабок,
Безалкагольным поўніцца сокам,
Вытнецца бокам аб дол
Абібок —
Зробіцца абабібокам.**

### НЕ Ў ТАГО

**Начальнік павінен быць
Капызісты,
Няхай сабе ў крэсле
Сядзіць, як на кратары.
У іншых бяруць інтэрв'ю
Журналісты,
А лепей бы бралі ўрачы-
Псіхіятры.**

### ЭКСПАРТ

**Экспартуе рускі мат Расія,
Бо ў яе запасы неблагія.
Сіла ёсць
Мацнейшая ад мата —
Дыктатура пралетарыята.**

### ЗМАГАР

**Ён з зялёным зміем смела
Біўся ўдзень і ўночы.
Галава не так балела,
Як пацелі вочы.**

Дзмітрый БУГАЁЎ

# ДЫКТАТУРА ПАЧЫНАЕЦЦА СА ЗНІШЧЭННЯ СВАБОДЫ СЛОВА

У маім выступленні, бадай, не будзе асаблівай навізны, бо пра многае з таго, што сёння найбольш турбуе прыхільнікаў дэмакратыі і свабоды прэсы, ужо сказана на нашым кангрэсе. Але і адмаўчацца лічу для сябе немагчымым, бо ў цяперашняй сітуацыі маўчанне азначала б згоду з тым вельмі актыўным наступам на дэмакратыю і законнасць, які ўсё больш разгортваецца ў Беларусі.

Думаю, што не толькі мы, але і вельмі многія людзі ў цывілізаваным свеце былі нямала здзіўлены тым па сутнасці надзвычайным становішчам, у якім сёлета праходзілі ўступныя экзамены ў ВНУ і тэхнікумы краіны. Глабальнае нашэсце не заўсёды пісьменных, але з вялікімі паўнамоцтвамі кантралёраў на абітурыенцкія аўдыторыі тлумачылася, вядома ж, высакароднай мэтай — барацьбой з хабарніцтвам. Не буду сцвярджаць, што яго зусім няма ў нашых ВНУ. Была ж у свой час асуджана за хабарніцтва група выкладчыкаў Мазырскага педінстытута, спарадычна траплялі за краты за гэтае ж злачынства асобныя выкладчыкі Мінскага медінстытута і некаторых іншых вышэйшых навучальных устаноў. Але ва ўсіх гэтых выпадках хабарніцтва было даказана ў судовым парадку. А калі галаслоўна на ўсю рэспубліку і свет заяўляецца, што ў нас толькі за хабар і паступаюць, і называецца лічба ў 5000 долараў хабару за аднаго абітурыента, дык гэта інакш, як татальным недаверам да ўсіх выкладчыкаў агулам, назваць нельга. Калі б нашы выкладчыкі і сапраўды бралі, ды яшчэ такія сумы, дык яны б даўно ездзілі на "мерсэдэсах" і жылі ў шыкоўных катэджах на некалькі паверхаў, а яны ў большасці сваёй ледзь зводзяць канцы з канцамі, бо сёння зарплата універсітэцкага прафесара ніжэйшая, чым у сяржанта міліцыі. Яўна ненармальнае становішча, як зусім ненармальна і тое, што ў навуковым інстытуце АН Беларусі акадэмік, як мне казалі, атрымлівае сёння менш, чым той ахоўнік парадку, які правярае ў яго пропуск пры ўваходзе ў акадэмічны будынак.

Для поўнай яснасці падкрэслю, што ні ў якім разе не выступаю ні супраць барацьбы з хабарніцтвам, ні супраць кантролю за працай выкладчыкаў. Але перакананы, што такія аўральныя метады, якімі рабілася гэта сёлета на ўступных экзаменах, прыносяць больш шкоды, чым карысці ўжо адным тым, што ствараюць нервозную абстаноўку і для выкладчыкаў-экзаменатараў, і для абітурыентаў.

Нічога добрага не можа быць і з таго, калі палітык высокага ці нават найвышэйшага рангу ў краіне бярэцца асабіста вырашаць і пытанні мовазнаўства, гісторыі, педагогікі, практычна не лічачыся ці не заўсёды лічачыся з думкай дастаткова кампетэнтных спецыялістаў у сваёй галіне.

Такую практыку, калі аднаасобным вярхоўным арбітрам ва ўсіх сферах жыцця і ў многіх галінах навукі выступаў вялікі правадыр усіх часоў і народаў, як у нас велічалі Сталіна, мы ўжо ведаем. Добра вядома і тая шкода, якую гэта практыка прынесла. Аднак урокі гісторыі дрэнна засвойваюцца не толькі звычайнымі людзьмі, але і сучаснымі кіраўнікамі, надзеленымі вялікай уладай.

Нельга не сказаць і пра тое, як выкарыстоўваюцца вынікі рэферэндуму, праведзенага ў маі гэтага года. Пасля яго фактычна пачаўся паход супраць беларускай мовы, стала адбывацца выцясненне яе са школьнага навучання. У сродках масавай інфармацыі паведамлялася, што ўжо 70 працэнтаў нашых школ зрабілі рускамоўнымі. І наступ на беларускую мову працягваецца. Чыноўнікі, як заўсёды, стараюцца на ўсю моц, каб дагадзіць вышэйшаму начальству. А ў выніку нацыянальнае адраджэнне, якое, абапіраючыся на прыняты Вярхоўным Саветам вельмі дэмакратычны і памяркоўны Закон аб мовах, за пяць гадоў дасягнула істотных поспехаў, адкідваецца далёка назад, да самых горшых у гэтых адносінах хрушчоўскіх і брэжнеўскіх часоў, калі мы дайшлі да таго, што ў сталіцы Беларусі фактычна не заставалася ніводнай беларускамоўнай школы.

А на рэферэндуме ж людзі галасавалі не супраць беларускай мовы, а толькі за роўны статус яе з мовай рускай. Такім чынам, ніякі рэферэндум не адмяняў артыкула Канстытуцыі, згодна якому мова карэннай нацыянальнасці, родная мова беларусаў з'яўляецца дзяржаўнай у Рэспубліцы Беларусь. Значыць, такой яна і павінна заставацца, цяпер, вядома, побач, нароўні, адначасова з мовай рускай. А з гэтага вынікае, што кожны чыноўнік, любая афіцыйная асоба, якая знаходзіцца на дзяржаўнай службе і мае справу з людзьмі, павінен валодаць абедзвюма дзяржаўнымі мовамі, як гэта і практыкуецца ў іншых цывілізаваных краінах, дзе існуе ўзаконенае двухмоўе. Гутарка тут ідзе пра зносіны менавіта афіцыйныя. У звычайных жа, прыватных стасунках кожны чалавек, у тым ліку, зразумела, і дзяржаўны чыноўнік, вольны гаварыць хоць па-турэцку ці па-кітайску, або шукаць паразумення няхай сабе і на мігі, як прынята ў нямых.

Такая прапанова (наконт абавязковасці ведання абедзвюх моў супрацоўнікамі дзяржаўных устаноў на ўсіх узроўнях) і ўносілася І. Шамякіным у звароце да прэзідэнта. Але пакуль што яна як быццам не пачута.

Не могуць не трывожыць сёння і настойлівыя спробы ўладных структур абмежаваць гарантаванае Канстытуцыяй права грамадзян Рэспублікі Беларусь "на атрыманне, захоўванне і распаўсюджванне поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі аб дзейнасці дзяржаўных органаў, грамадскіх аб'яднанняў, аб палітычным, эканамічным і міжнародным жыцці, стане навакольнага асяроддзя" (артыкул 34).

Кантроль над сродкамі масавай інфармацыі ў нас яшчэ не глабальны, бо ўсё яшчэ існуюць і незалежныя органы друку, і ў выданнях, сярод заснавальнікаў якіх пазначаны ўлады, напрыклад, як у "Звяздзе", Вярхоўны Савет і Кабінет Міністраў, — і ў гэтых выданнях яшчэ даецца і праўдзівая інфармацыя, не скажоная тэндэнцыйнымі каментарыямі ў афіцыёзным духу. Але наступ на СМІ ўжо адчуваецца. Тэндэнцыйнасць, прыстасавальніцтва да ўладаў асабліва заўважаюцца на тэлебачанні і радыё, якія ўсё больш зместам сваіх перадач, іх сутнасцю пачынаюць нагадваць мінулыя часы.

І гэта вельмі небяспечна.

Як паказвае вопыт гісторыі, усякая дыктатура пачынаецца са знішчэння свабоды слова, думкі, друку. Пакуль гэтая свабода ёсць, нічым не абмежаваная дыктатура практычна немагчымая, бо без вялікай хлусні, глабальнага падману і суцэльнага запалохвання яна існаваць не можа. Пры абыякавасці ж грамадства да самаўпраўства ўлады, да парушэнняў ёю існуючых законаў і да яе замахаў на свабоду слова да дыктатуры ствараюцца спрыяльныя магчымасці.

А ў нашым грамадстве сімптомы такой абыякавасці праглядваюцца выразна. Не магу забыць адной размовы ў тралейбусе пасля таго, як у нашым Вярхоўным Савеце была ўжыта сіла супраць дэпутатаў апазіцыі, якія аб'явілі галадоўку. Жанчына ўжо немаладога веку на ўвесь салон гучна заявіла: "А што, трохі пабілі, дык так ім і трэба".

Што кіравала гэтай жанчынай? Можа, жаданне публічна засведчыць на ўсякі выпадак сваю лаяльнасць да ўлады пад уплывам таго страху, які сядзіць у нашых генах яшчэ з 30-ых гадоў? Ці і сапраўды ў яе словах выявілася толькі зларадства, што "трохі памялі" дэпутатаў, надзеленых рознымі прывілеямі ды льготамі? Не ведаю. Але і ў тым, і ў другім выпадку ёсць над чым задумацца.

Бо так паводзіць сябе і частка нашай дэнацыяналізаванай і звыклай да карыслівых кампрамісаў навуковай і творчай інтэлігенцыі, часта з высокімі ступенямі і званнямі. Маю на ўвазе тых, хто не саромеецца прылюдна, праз сродкі масавай інфармацыі апраўдваць спробы ўлады абмежаваць свабоду слова — адзінае рэальнае, што мы атрымалі ўзмен аграблення, зробленага дзяржавай, якая фактычна канфіскавала сціплыя ў большасці людзей працоўныя зберажэнні, што збіраліся на самы крайні выпадак дзесяцігоддзямі, нярэдка за кошт жорсткага самаабмежавання.

Магчыма, жанчына з тралейбуса і ўжо ва ўсякім разе нашы хітрамудрыя інтэлігенты, што апладзіруюць самавольству ўладаў, суцяшаюць сябе тым, што б'юць пакуль не іх, а толькі апазіцыю. А мне прыгадваюцца словы аднаго мудрага быкаўскага героя, чалавека хрышчонага, які ў адказ на рэпліку, што распраўляюцца з яўрэямі, адказвае: "З яўрэяў пачалі, а, глядзі, намі скончаць".

Логіка парушэнняў законнасці, дэмакратычных свабод і правоў чалавека тым і небяспечная, што яна, пачаўшы з малога, можа завесці далёка, асабліва калі такія парушэнні дапускае ўлада энергічная, напорыстая і рашучая. Ёй у яе замахах на закон і права можна неяк супрацьстаяць толькі агульнымі намаганнямі ўсіх прыхільнікаў дэмакратыі і свабоды, грамадства ў цэлым. Наш правамерны ўклад у межах закона тут адзіны — праўдзівае, сумленнае слова, адкрыта і своечасова сказанае.

*Выступленне на II Міжнародным кангрэсе ПЭН-цэнтра.*

# ЯК ПАЧУВАЕШСЯ, ФЕМІДА?

***З першым намеснікам старшыні Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь Вадзімам КАНДРАЦЬЕВЫМ гутарыць карэспандэнт "Літаратуры і мастацтва" Міхась ЗАМСКІ.***

*М. Замскі:* **У старых, савецкіх часоў, слоўніках паняцце "суд" тлумачыцца, як дзяржаўны орган, што займаецца вырашэннем грамадзянскіх спрэчак і разглядам крымінальных спраў. Адным словам, быў інструмент дзяржаўнай палітыкі, або, калі больш дакладна, палітыкі пануючай камуністычнай партыі. І хоць нават пры Сталіне існавала выбарнасць суддзяў, сапраўдная цана той "выбарнасці" была такой жа, як і цана "выбарнасці" дэпутатаў Саветаў усіх узроўняў, калі кожная кандыдатура чарговага "абранніка" народа папярэдне падбіралася і зацвярджалася ў партыйных кабінетах.**

**Мне здаецца, Вадзім Сяргеевіч, што і ў нашым быццам бы посткамуністычным грамадстве судовая сістэма мала чым адрозніваецца ад старой. Хіба толькі тым, што сёння суддзяў прызначае прэзідэнт краіны?**

***В. Кандрацьеў:*** Па-першае, гледзячы якіх суддзяў. Членаў Вярхоўнага суда, да прыкладу, выбірае і зацвярджае Вярхоўны Савет рэспублікі, а астатніх суддзяў — сапраўды назначае прэзідэнт.

**— І пры гэтым можна гаварыць аб незалежнасці суда?**

— Судовая ўлада, паводле новай Канстытуцыі краіны, з'яўляецца самастойнай, незалежнай уладай. Або, як яе яшчэ называюць, трэцяй уладай. Побач з выканаўчай і заканадаўчай.

**— Так, так, пра вартасць галін улады нам нядаўна распавёў прэзідэнт А. Лукашэнка, які на сустрэчы з ветэранамі падкрэсліў, што ўсе яны растуць з аднаго ствала, а ствалом з'яўляецца ён, *прэзідэнт*...**

— Судовая сістэма ў дэмакратычным грамадстве знаходзіцца па-за палітыкай, яна кіруецца толькі законам.

**— Спадзяюся, што пра ўсё гэта мы з вамі сёння пагаворым. А пакуль што, для "затраўкі", раскажыце, што сёння сабой уяўляе судовая сістэма краіны, так бы мовіць, у яе колькасных, структурных параметрах?**

— У рэспубліцы — 154 народныя суды, у якіх працуе 578 суддзяў. Праўда, народнымі яны цяпер ужо не называюцца. Проста — суддзі. Асноўнае звяно судовай сістэмы — раённыя суды. Статыстычныя дадзеныя за 1995 год у нас яшчэ не падсумаваны, таму я буду аперыраваць дадзенымі за мінулы год. Дык вось, летась судамі рэспублікі былі асуджаны 53401 чалавек — на 12,2 працэнта больш, чым у папярэднім годзе. Нагрузка на суддзяў вялізная. Дарэчы, гэтая асаблівасць у нас засталася яшчэ з часоў, калі існаваў Савецкі Саюз. І тады нашы суды па "загрузцы" справамі займалі ў краіне першае месца.

**— Гэта трэба зразумець так, што ў Беларусі быў самы высокі ўзровень злачыннасці?**

— Так. Цяпер сярэднямесячная нагрузка на аднаго, скажам, раённага суддзю складае па рэспубліцы 56 крымінальных, грамадзянскіх і адміністрацыйных спраў.

**— Тым не менш, у органах пракуратуры, унутраных спраў можна нярэдка пачуць скаргі на суды, якія, маўляў, марудзяць з разглядам спраў. Мне ў свой час давялося пісаць пра месцы зняволення, у тым ліку і пра следчыя ізалятары. У прыватнасці, мінскі ізалятар. Скажу вам, відовішча не для слабанервовых: перапоўнены да краёў, зняволеныя вымушаны спаць па чарзе, бо ў камерах не хапае нараў, паветра — не прадыхнуць і да т. п. Асабліва засмучала ўсведамленне таго, што змешчаныя сюды людзі дэюрэ не з'яўляюцца злачынцамі, бо ў судах іх *справы яшчэ не разглядаліся*. Ад адміністрацыі СІЗА я даведаўся, што некаторыя арыштаваныя знаходзяцца тут па годзе і больш. Я дапускаю, што па пераважнай большасці зняволеных судамі будуць вынесены абвінаваўчыя заключэнні, але ж, відаць, будуць і прызнаныя судом невінаватымі. Як ім кампенсаваць месяцы незаслужана перанесеных пакут? Што пра гэта гаворыцца ў законе?**

— Чалавек, апраўданы судом, павінен быць адноўлены ва ўсіх правах.

**— А як кампенсаваць маральны ўрон? Я ведаю выпадкі, калі перад чалавекам, памылкова арыштаваным, потым нават не папрасілі прабачэння...**

— Папрокі па адрасе судоў з боку пракуратуры і органаў унутраных спраў, пра якія вы згадалі, сапраўды маюць месца і часта грунтуюцца на фактах. Як вядома, паводле закона кожная справа павінна быць разгледжана ў судзе ў межах месяца. Тым не менш, летась суды не ўклаліся ў вызначаны тэрмін з разглядам 5391 *крымінальнай справы* — 13,3 працэнта ўсіх спраў, што праходзілі праз судовыя органы. Чаму так адбылося? Ёсць на гэта і аб'ектыўныя прычыны.

**— Ой, гэтыя славутыя "аб'ектыўныя" прычыны...**

— Так, на самай справе — аб'ектыўныя. Напрыклад, канвой не дастаўляе падсудных на слуханне справы...

**— У Першамайскім судзе г. Мінска мне расказвалі, што канвой часам адмаўляецца прывозіць сюды падсудных, бо само *памяшканне* суда не адпавядае ўмовам іх надзейнай аховы. Няма, да прыкладу, металічных клетак, куды павінны памяшчацца небяспечныя злачынцы.**

**Або такая з'ява. Прывезлі падсуднага раніцай, адвезлі вечарам і, аказваецца, увесь дзень ён застаецца ненакормленым (раніцай у СІЗА яго паднялі да сняданку, прывезлі назад ужо пасля вячэры). Яшчэ сюды-туды, калі разбіральніцтва па яго справе працягнецца адзін дзень. А калі больш — два, тры дні? Старшыня гэтага суда Галіна Скапцова распавяла мне пра выпадкі, калі падсудныя былі не ў стане адказваць на пытанні суддзяў, бо былі проста вельмі галодныя.**

— Гэта адзін бок справы. Але часцей канвой не дастаўляе ў суд падсудных, бо ў органах унутраных спраў не хапае для гэтага людзей. Прызначаецца судовае пасяджэнне, а падсуднага не прывозяць. Суддзя вымушаны перанесці пасяджэнне на іншы дзень, і гісторыя зноў паўтараецца. І так па некалькі разоў. Даволі тыповая з'ява — не з'яўленне ў суд сведкаў і нават пацярпелых. Асабліва ў сельскай мясцовасці, дзе дрэнна працуе транспарт, і прыехаць, скажам, з аддаленай вёскі ў райцэнтр — цэлая праблема.

**— Каб толькі замінаў транспарт! Сведку, а то і пацярпелага проста запалохваюць, а то і падкупляюць...**

— Так, і гэта мае месца. Нам трэба пераймаць замежны вопыт. У некаторых прававых дэмакратычных краінах сведка ў сувязі з выключнымі акалічнасцямі мае права ў час судовага разбіральніцтва не паведамляць свайго сапраўднага прозвішча, месца жыхарства і іншыя пашпартныя дадзеныя.

**— Пакуль што, Вадзім Сяргеевіч, з вашага аповяду атрымліваецца, што ў незахаванні прадугледжанага законам тэрміну разгляду спраў вінаваты ўсе, акрамя суддзяў.**

— У мяне і ў думках няма абяляць іх у гэтай справе. Вядома ж, некаторыя з іх дапускаюць і звычайную валакіту. Так адбываецца ў тых выпадках, калі служка Феміды справы як след не вывучыў і ў час судовага працэсу яна, як кажуць, пачынае рассыпацца з-за недаказанасці розных эпізодаў быццам бы ўчыненага злачынства.

**— Суддзя, як я разумею, перш за ўсё павінен кіравацца прэзумпцыяй невінаватасці падсуднага...**

— Так, гэта абавязковая ўмова. Але з-за непадрыхтаванасці справы суддзя ўжо ў час працэсу вымушаны накіроўваць яе на даследаванне, або робіць спробу "выцягнуць" яе сам у зале суда, праводзячы, па сутнасці, следчыя дзеянні, хоць гэтага ён не павінен рабіць ні ў якім разе. Абавязак суддзі — вывучыць справу, выслухаць аргументы бакоў і прыняць рашэнне.

**— Гэта зразумела. Але вы згадалі, што па значнай колькасці ўзбуджаных спраў няякасна праведзена і следства органамі ўнутраных спраў, пракуратурай.**

— Вы мяне правільна зразумелі. Летась з-за памылак следства на дадатковае расследаванне судамі было адпраўлена 4495 спраў.

**— Я чуў, што некаторыя крымінальныя справы наогул не даходзяць да судовага разгляду.**

— Гэта мае месца. Вялікая колькасць спраў спыняецца следствам па розных акалічнасцях, у тым ліку па так званых рэабілітуючых абставінах.

**— Што гэта азначае?**

— З-за змянення абстаноўкі. Чалавек, напрыклад, узяў хабар, прыцягнуты да адказнасці за хуліганскія дзеянні, і вось следства вядзе, вядзе справу і раптам спыняе яе. Матывіроўка? Падследны нібыта перастаў уяўляць сабою пагрозу для грамадства. І частка гэтых злачынцаў пазбягае пакарання. Я не кажу, што не павінна існаваць для гэтага рэабілітуючых абставін, але ўлічваць іх — справа суда, а не следства.

**— Тым не менш, у грамадстве цвёрда ўкаранілася думка (магчыма, яна ў некаторай ступені *падаграецца* праваахоўнымі органамі), што суды вельмі часта выносяць прысуды, не адпавядаючыя цяжкасці злачынства, што праяўляюць у гэтай справе незразумелую мяккасць, лібералізм.**

— Я б саграшыў супраць ісціны, калі б сказаў, што гэта на ўсе сто працэнтаў няпраўда. Такія выпадкі маюць месца. У мінулым годзе з-за мяккасці пакарання былі адменены прысуды адносна 425 чалавек.

**— Адмену ініцыіравала пракуратура?**

— Не толькі. Мы самі ў парадку нагляду. На маючы адбыцца ў снежні гэтага года пленум Вярхоўнага суда вынесена, да прыкладу, пытанне аб правільным прымяненні 42-га артыкула Крымінальнага кодэкса, які менавіта прадугледжвае мяккае пакаранне — ніжэй ніжэйшай мяжы.

**— Як сфармуляваны гэты артыкул?**

— Суд, улічваючы выключнасць абставін справы і асобы вінаватага, можа назначыць яму пакаранне ніжэй ніжэйшай мяжы, прадугледжанай законам за гэтае злачынства, з абавязковым указаннем яго матывіроўкі. На практыцы ж мы сутыкаемся вельмі часта з прымяненнем гэтага артыкула без указанняў матываў яго ўжывання.

**— І як вы тлумачыце матывы, якімі кіруюцца суддзі, што бяруць на ўзбраенне гэты 42-гі артыкул? Подкуп? Запалохванне хаўруснікамі ці сваякамі злачынцы?**

— Наконт дачы хабару нічога не магу сказаць. Як кажуць, не злоўлены — не злодзей, хоць, прызнацца, зараз у рэспубліцы разглядаецца крымінальная справа ў адносінах двух былых суддзяў менавіта за хабарніцтва. Але пакуль што справа знаходзіцца ў стане разгляду і пра канчатковыя вынікі гаварыць пакуль што зарана. Што тычыць запалохвання суддзяў, дык, сапраўды, пагрозы, знявагу ў свой адрас ім выслухоўваць даводзіцца даволі часта. Вось і нядаўна я атрымаў ліст ад суддзяў горада Віцебска, у якім яны патрабуюць прыняць меры па абароне сваіх гонару і годнасці ад падобных хуліганскіх дзеянняў.

**— Дзякуй Богу, што толькі хуліганскіх. Вунь у Расіі, чытаў, некалькі суддзяў забіты падасланымі кілерамі.**

— Новым законам аб судаўладкаванні і статусе суддзяў, які падпісаны прэзідэнтам, вызначана, што суддзі маюць права на нашэнне, захоўванне і прымяненне зброі. Але для гэтага трэба іх гэтай зброяй забяспечыць. Ці ўдасца гэта ажыццявіць на практыцы, я не ведаю. Пакуль што мае звароты ў Міністэрства ўнутраных спраў па гэтым пытанні водгуку не знайшлі.

Вяртаючыся да згаданых вамі папрокаў у мяккасці нашых судоў у дачыненні злачынцаў, хачу сказаць, што рэальнае становішча ў гэтай справе не дае падстаў для такіх абвінавачванняў (за выключэннем пералічаных мной выпадкаў). Мяркуйце самі. У мінулым годзе да розных відаў пакарання, як я ўжо казаў, было асуджана 53401 злачынец, або на 12,2 працэнта больш, чым у папярэднім годзе. Сёлета гэта лічба яшчэ болей узрасце. Ніколі столькі злачынцаў не асуджалася і да выключнай меры пакарання — летась 24 чалавекі. У мінулыя гады асуджалася да расстрэлу не больш 10-12 злачынцаў.

**— Ваша думка наконт пажыццёвага зняволення, якое прыктыкуецца ў многіх краінах свету, а, здаецца, з мінулага года ўведзена і ў Расійскай Федэрацыі?**

— Наогул, станоўчая. Але для нас пакуль што гэта не ажыццявіма — няма неабходных матэрыяльна-тэхнічных сродкаў.

*Дарэчы, яшчэ колькі слоў пра "мяккасць"* нашых судоў. Ведаеце, нам даводзіцца чуць папрокі ад некаторых уладных стуктур за тое, што мы, наадварот, занадта шмат людзей "саджаем", іх няма куды змяшчаць, усе месцы зняволення — следчыя ізалятары, калоніі, турмы — перапоўнены, а новыя не будуюцца, бо няма сродкаў.

**— Да таго ж, зняволеных у калоніях не могуць сёння забяспечыць працай.**

— Так. *І не толькі ў калоніях.* Нават мера пакарання, якая не прадугледжвае пазбаўлення волі, — я маю на ўвазе прымусовую працу на гаспадарчых аб'ектах, так званай "хіміі" — сёння таксама губляе сэнс, бо аб'екты гэтыя прастойваюць.

**— Гэта менавіта з такой "хіміі" рэгулярна наведваўся ў Светлагорск тамашні маньяк-забойца, справа якога літаральна скаланула ўсю краіну.**

— Раней гэтая "хімія" лічылася досыць эфектыўным сродкам пакарання.

**— Вадзім Сяргеевіч, вы згадвалі, што з першага студзеня 96-га года павінен быць уведзены ў дзеянне новы закон аб судовай сістэме ў статусе суддзяў. Але ж для гэтага яго, як я разумею, трэба прыводзіць у адпаведнасць з новымі крымінальным, крымінальна-працэсуальным, грамадзянскім і грамадзянска-працэсуальным кодэксамі, якія чакаюць свайго прыняцця ў Вярхоўным Савеце. Як тут быць?**

— Ну, я не ведаю, як уздзейнічаць на дэпутатаў, каб яны пачалі працаваць над гэтымі дакументамі. Баюся, што з прымяненнем новага судовага закона прыйдзецца пачакаць. А гэта крайне не пажадана.

**— Вы ж ведаеце, чаму дэпутаты не з'язджаюцца на сесію — у нас запалохваюцца не толькі суддзі... Але новы судовы закон сапраўды ўносіць карэнныя змены ў судавытворчасць?**

— Так, судовая сістэма будзе выглядаць зусім інакш. Яна, напрыклад, ужо не прадугледжвае наяўнасці інстытута народных засядацеляў.

**— Інстытут народных засядацеляў, па маім перакананні, быў дзецішчам наскрозь фальшывай і крывадушнай савецка-камуністычнай сістэмы і меў чыста бутафорскае прызначэнне, на мэце якога было паказаць, што суд у нас вяршыцца ад імя народа і для народа. Як мне неаднойчы расказвалі суддзі, карысці ад тых засядацеляў было ні на грош, у справу яны ўнікалі цяжка, што зусім заканамерна — пры падборы іх зыходзілі не з ведаў, адукацыі, нарэшце, інтэлекту, а сацыяльнай прыналежнасці, працоўных паказчыкаў і да т. п.**

— Цяпер, калі санкцыя прадугледжвае пакаранне да дзесяці гадоў, суддзя разглядае і выносіць прысуд аднаасобна. Калі вышэй, але не цягне за сабой смяротнага пакарання, суд вершаць тры прафесійныя суддзі; калі ж можа быць прыменена выключная мера пакарання, *падсудны мае права патрабаваць суда* прысяжных.

**— Значыць, нарэшце і ў нас уводзіцца суд прысяжных! Дарэчы, суд прысяжных існаваў нават у царскай Расіі, гэта ім *былі прызнаны невінаватымі* і тая ж Вера Засуліч, і Бейліс, якога чарнасоценцы абвінавачвалі ў рытуальным забойстве хлопчыка. І толькі з надыходам бальшавіцкай улады суд прысяжных быў скасаваны. Ды і які аб'ектыўны суд патрэбны быў Сталіну з яго злачынным рэжымам, калі "суд" і расправу чынілі розныя там "тройкі" і "двойкі", крывавыя сталінскія памагатыя, накшалт Вышынскага і Ульрыха, што старшынявалі на вядомых працэсах "трацкістаў" у канцы трыццатых гадоў.**

**Дарэчы, Вадзім Сяргеевіч, ваша асабістае стаўленне да суда прысяжных?**

— Цалкам адмоўнае. І не трэба мне даводзіць, што суд прысяжных — панацэя ад судовых памылак. Практыка многіх краін, дзе даўно існуе такі суд, сведчыць, што і пры ім мелі месца несправядлівыя, памылковыя прысуды, калі на плаху адпраўлялі невінаватых людзей.

**— Ну, ведаеце, не памыляецца, мабыць, толькі гасподзь Бог...**

— І ўсё-такі я за тое, каб суд вяршылі прафесіяналы-юрысты.

**— Гэткі, даруйце, снабісцкі падыход...**

— Чаму снабісцкі? Давайце разбяромся. Суд прысяжных, у нас ён павінен складацца з сямі чалавек, будзе фарміравацца за кошт, вядома, законапаслухмяных, ні ў чым не скампраметаваўшых сябе грамадзян, але не людзей, дасведчаных у юрыспрудэнцыі.

**— Даруйце, але ж суд прысяжных выносіць вердыкт, які складаецца толькі з двух паняццяў: вінаваты — не вінаваты.**

*(Працяг на стар. 12)*

## "ПРАЛЕСКА", N 10

Няпростыя пытанні выхавання закранаюцца ў слове галоўнага рэдактара часопіса А. Сачанкі "Хто вінаваты?", які звяртае ўвагу на становішча ў сучаснай сям'і. Змешчаны вершы для дзяцей С. Шах, якая, як вядома, працуе лагапедам, таму ў згаданых творах засяроджваецца на развіцці мысліцельных працэсаў у дашкольнікаў, дапамагае навучыцца ўменню абагульняць прадметы. А. Марціновіч ("А з Заможжа — людзі харошыя") знаёміць з творамі для дзяцей У. Паўлава, якому нядаўна споўнілася 60 гадоў. Ю. Гомазава запрашае ў казку, прапануючы з малюнкаў на развароце нумара зрабіць персанажаў беларускай народнай казкі "Зайкава хатка" ў апрацоўцы Я. Коласа (друкуецца і сам твор). Змешчана таксама і казка братоў Грым "Селянін і чорт" (пераклад з нямецкай Р. Крывальцэвіч), публікуюцца вершы настаўніка музыкі школы N 3 г. Маладзечна Л. Сцяпной, тэкст і ноты песні "Музыкі" (словы А. Дзержынскага, музыка У. Галя), іншыя матэрыялы.

## І ПЕСНІ, І ВЕРШЫ

Песні і вершы трох аўтараў — Алега Елісеенкава, Навума Гальпяровіча і Леаніда Дранько-Майсюка гучалі на сустрэчах гэтых творцаў у Наваполацку, паэтаў і кампазітара цёпла віталі ў музычным вучылішчы, у Цэнтральнай бібліятэцы імя Маякоўскага. Аўтары пазнаёмілі аматараў паэзіі і музыкі з новымі творамі, падзяліліся сваімі планамі, адказалі на шматлікія пытанні. Не быў абыдзены на сустрэчах і новы зборнік вершаў Н. Гальпяровіча, які выйшаў сёлета ў выдавецтве "Мастацкая літаратура".

Н. К.

## СВЯТОЕ МЕСЦА — МІРСКІ ЗАМАК

Другім, дапоўненым і перапрацаваным выданнем выйшла ў выдавецтве "Полымя" кніжка В. Калніна "Мірскі замак". Выпушчаная ў серыі "Помнікі беларускага дойлідства", яна дае магчымасць неабыякавым да нацыянальнай даўніны яшчэ бліжэй пазнаёміцца з найцікавейшым помнікам архітэктуры Беларусі, пабудаваным на пачатку XVI стагоддзя ў стылі позняй готыкі. Расказваецца не толькі пра сам замак, а і пра тых, хто ў розны час валодаў ім, а гэта магнаты Ілінічы, Радзівілы, Святаполк-Мірскія. Выданне багата ілюстравана.

## КОЛЬКІ ВЕХАЎ З ГІСТОРЫІ

У выдавецтве "Полымя" ў гэтыя юбілейныя для купалаўцаў дні пабачыў свет альбом "75 гадоў Нацыянальнаму Акадэмічнаму тэатру імя Я. Купалы", складзены М. Бартніцкай і К. Мізгайлай. Тэкст пададзены па-беларуску і ў перакладзе на англійскую мову Т. Караічавай. У якасці ілюстрацый выкарыстаны здымкі У. Шахлевіча, Я. Коктыша, Ж. Маёравай, Г. Маляўскага. Што да тэксту, дык ён дае ўяўленне пра той вялікі шлях, што пройдзены купалаўцамі за час існавання тэатра, пра яго набыткі апошняга часу.

Адкрываецца альбом артыкулам дырэктара тэатра І. Вашкевіча "75 гадоў і дзевяць стагоддзяў". Як відаць з назвы, гэта гаворка не толькі пра тэатр імя Я. Купалы, а і пра беларускі тэатр у цэлым: "...гісторыя яго пачынаецца ў далёкай мінуўшчыне, у адзінаццатым стагоддзі. Менавіта тады на тэрыторыі Беларусі з'явіліся першыя скамарохі. Называлі іх усяка — блазнамі, бахарамі, мядзведнікамі (многія з іх выступалі з дрэсіраванымі мядзведзямі). Мастацтва іх грунтавалася на выключна народнай творчасці — абрадавай паэзіі, карагодах, гульнях, ігрышчах. І былі яны майстрамі на ўсе рукі — драматычнымі артыстамі, музыкамі, спевакамі, танцоўшчыкамі, фокуснікамі, дрэсіроўшчыкамі. Праіснавалі яны на Беларусі аж да дваццатага стагоддзя".

Чым жывуць купалаўцы сёння, якія іх мастакоўскія памкненні? На гэтыя і іншыя пытанні можна знайсці адказ у артыкулах мастацкага кіраўніка тэатра В. Раеўскага "Ці разгадае тэатр загадку чалавека" і кіраўніка літаратурнай часткі М. Матукоўскага "Феномен купалаўцаў". Невялікая нататка знаёміць з галоўным мастаком тэатра Б. Герлаванам.

Асноўная ж гаворка — пра спектаклі апошніх гадоў. Вось далёка няпоўны пералік іх: "Паўлінка", "Памінальная малітва", "Ажаніцца — не журыцца", "Крык на хутары", "Тутэйшыя", "Тры сястры", "Ідылія", "Мудрамер", "Радавыя"... Гаворка пра кожны — лаканічная. Прозвішчы тых, хто мае дачыненне да яго з'яўлення, кароткі змест (у тым ліку і ў перакладзе на англійскую мову) і некалькі здымкаў.

Н. К.

Паэзія

Мікола БУСЬКО



# ЗЯМЛЯН ТРЫВОЖНЫ ЖЫЦЦЯПІС...

●

*Валянціну ТАЎЛАЮ*

Грымотнае дыханне землятруса
Запомніла пакутная зямля.
Як выгнаная доля беларуса
Успыхвала агнямі кругаля.

Вядуць аповяд аб тагдышнім абеліскі:
Этап зняможана таптаў спіну вярсце.
Свабодных слоў ты рупна сеяў іскры.
Ты сеяў іскры праўды ў цемнаце.

Артыкула параграф надта цяжкі.
Як камень думаў: за радок — гадок.
У ворага свабоды без прамашкі
Страляў твой, сэрцам выкуты радок.

І дыхаць словам.
Жыць сваім мастацтвам.
Да беларуса трэба дарасці.
А чалавеку з лёсам — не абняцца.
І паасобку крочыць па жыцці.

Я ля гадоў прысеў, як ля сядзібы.
Міжволі мне падумалася штось:
Ту скразнякі гісторыі хадзілі,
Калі звінела зброяй маладосць.

●

Зноў на мяне глядзіць са шкліны
Нямногаснежнае зімы
Галубка з райскаю маслінай
Паглядам шчырым і нямым.

Не Богам — створанае намі
Спрэс беспатольнае жыццё.
Яно то ўздыбіцца цунамі,
То злёгку ўколе, бы асцё.

Але ты ў кожную пагоду,
Хоць гора гне,
Ці соліць пот,
Дарэмна сэрца не расходуй
На безліч стрэсавых турбот.

Шукаць віну — благі занятак.
За амаральнасць
І за здзек
Калісьці будзе небам зняты
З свайго прастолу чалавек.

Хоць і жывём пад небам Сына,
Святога Духу і Айца...
Свабодна верыць у Айчыну
І ў запаветы Мудраца.

●

Гамоняць бярозкі-падлеткі.
Лагоднасцю вее ў цішы.
Адчуеш тут кожнаю клеткай
Сваё абнаўленне душы.

Сасна пахам смольным адорыць.
Прылашчыць слых дзятліка стук.
Я чую, як промні сузор'яў
Здалёку імкнуцца да рук.

Абуджаным думкам дазволю
Сачыць, як мінаюць вякі.
Зямельку прадзьмулі да болю
Гісторыі злой скразнякі.

Пра быт
І пра час нехлямяжы,
Дзе стаў неўраджайным загон,
Мне кожная зёлка раскажа —
Такі ўжо прыроды закон.

А сонца спусцілася нізка...
Адпрэчу свой тлум, неспакой!..
І крокі твае блізка, блізка,
І блізкі кахання настрой.

## МІФ ПРА НАЎДУ

Прырэчны лес сціха нямее.
З ім — рытмы,
Меркі,
Вышыня.
Як свет, знядоленая фея
Адна сядзіць на зрэзе пня.

Не адвядзе яе самоты
І думак стоеных садом.
Туману белыя палотны
Ляглі над дрэмнаю вадой.

А на траву аселі росы —
Зямлі шматлікія грахі?
І неба сыпле зорак проса
На вечаровы бор глухі.

Дзе разгараецца ўсясільна
Над рэчкай захаду касцёр,
Вятроў узнятае цапільна
Сячэ стракатае лісцё.

І нават конік без надсады
Зацвіркаў, скокнуўшы на корч:
Вунь там, на канце далягляду,
Чорт балансуе дзень і ноч.

А дзе вякуе лес альховы,
Даўно сышліся ў чараду
Ўсе валуны, нібы каровы,
І п'юць ля берага ваду.

І да налецця ці нап'юцца,
А п'юць звідна і давідна,
Хоць людзі ўжо не спадзяюцца.
Толькі чакае іх яна.

## ЗІМОВАЯ ДЗЯННІЦА

Суцемкі развеяны зорныя.
Сівіцца над вёскай усход.
А хатка, бы кніга, загорнута
Віхурай у пульхны сумёт.

Цілікае птушка чубатая,
Страсаючы бель завірух,
Пра тое, як вецер выкатвае
З-за воблачка сонечны круг;

Пра тое, што смужная раніца,
Раскрыліўшы свет аканіц,
З напеўнасцю так прыбіраецца
Да яркага свята Грамніц.

Святла не мяняецца тактыка —
Такі ўжо прыроды закон,
І цягнуцца промні галактыкі,
Як людзі, да родных вакон.

Дзялюся турботамі з маткаю:
Прынёс дроў, падняў сагану.
Яечня скварчыць, і аладкамі
Так смачна прапах выхадны.

Марозік з'інелаю пысаю
Патыцкаў у дзверы, дзе мы...
І гэта відовішча ўпісана
У белую памяць зімы.

●

Ёсць нейкі край (я чуў даўно),
Яго адгэтуль не відно.

А ў краі тым — рака Уша,
Дзе ачышчаецца душа.

І ў кожны вечар дрэў лісты
Ільсняцца бляскам залатым.

Звяры і птушкі, як сябры,
Мне адгукаюцца ў бары.

Іду і бачу я здаля:
Заварушылася зямля.

У сілы добрае радні
Зноў рады госцю карані!

Тут нават час (скажу яшчэ)
Па-асабліваму цячэ.

Вісіць на небе зорак спіс —
Зямлян трывожны жыццяпіс.

Прыжыўся тут звычай святы:
Наводзіць з прышласцю масты.

Над ім, нібы касмічны птах,
Расправіў скрыдлы Млечны Шлях.

За хараство каму плачу? —
Міргае зорка рыфмачу.

Стаіць за рэчкай дужы дуб.
Ён уступіў з сасною ў шлюб.

Кашлатай кронаю урос
У бездань сіняю нябёс.

Тут увасобіцца, павер,
Усё ў біблейскі запавет.

Проза

## ВОСЕНЬ, ЛІСТАБОЙ І САБАЧЫЯ ГАЙНІ

Сёння, бадай, першы дзень, калі восень увачавідкі паказвала свой вядзьмарскі нораў. Раптам аднекуль на тутэйшы ўзлесак наляцеў вецер, моцна патрос дрэвы і ажно захадзіў па алеях, колькі хвілін збіваючы лістоту, тую лістоту, якая яшчэ зялёнай пасохла ад доўгай і бязлітаснай спёкі. Штосьці падобнае мне даводзілася бачыць на Іслачы, але то было ўлетку — здавалася, за адно імгненне ўся рака зрабілася зялёнай і паплыла не сваёй вадой. Не помню цяпер, што тады спыніла гарачы лістабой, можа, самахоць перастаў, але сёння, акурат на пажар, з парывістым ветрам прайшоў аднекуль дождж, як кажуць, без хмараў і грому. Я доўга, быццам патураючы, ішоў ад возера, паціху пераадольваючы адну за адной горкі, і мне чамусьці было не страшна дажджу, дарма што мы ўжо цяпер насцярожваемся — хоць бы не радыяцыйны!.. Можа, сённяшні сапраўды не радыяцыйны. Няхай дае бог. А то сёлета я з гэтай радыяцыі амаль усю вясну не вылазіў.

Дзіўна, як памялела за лета вада. І ў рэках, і ў азёрах; сажалкі высахлі, бадай, да дна; там блішчыць на сонцы парэпаны глей, тырчаць карчы і розны друз, які дасюль хаваў тут ад сваіх і чужых вачэй чалавек. Сяго-таго не кармі, затое дай выкінуць праз фортку штокольвеч прыкрае.

Ну, здаецца, выкрываўчы пафас патрачаны і ў гэтым выпадку, і цяпер чалавецтва ў асобе чалавека нарэшце паслухаецца яшчэ аднаго дзівака і не стане далей атручваць сабе жыццё.

А між тым, сабакі такой парой шукаюць і сяброў і ахвяраў сабе. Ужо на пачатку восені збіраецца непрыкаянымі гайнямі каля чалавечага жытла, якое паступова астывае. Абывацель забірае свае летнія транты з дач, падаецца на гарадскія кватэры, пакідаючы сам-насам прыручаных вартаўнічых звяроў. Тыя без часовых гаспадароў, якія прыкормлівалі іх улетку, накопліваюць у сваіх агрэсіўных натурах яшчэ мацнейшую злосць, і ўжо нічога не замінае ім учапіцца даверліваму прахожаму ў лытку ці ўвогуле схапіць за горла. Асабліва павялічваецца агрэсіўнасць у гайнях, якія носяцца з гаўканнем па наваколлі альбо ўтвараюцца раптам па адным зове. І тады яны помсцяць стрэчнаму чалавеку і за сваю пакінутасць, і за сваю здзічэласць, і за ўсе іншыя крыўды, нават з прычыны асаблівасці гайні. Пакуль я браў з ходу шматлікія горкі, каб падняцца к дому, да мяне таксама прысталі два сабакі — спярша адзін, пасля другі. Але ціхмяныя, з гатоўнасцю ў вачах паказаць самую шчырую адданасць. Словам, прысталі ў спадарожнікі ні больш ні менш, як сябры чалавека. Дык хто іх стане гнаць ад сябе! Злашча, што галава мая занята была нейкімі пустымі развагамі, а перасцярога дык і зусім не закрадвалася ў душу. Тым часам сабак вакол мяне збягалася ўсё больш, неяк непрыкметна, зусім ціха далучаючыся, нічым не выдаючы сябе. Адчуў я іх блізка па скавытанні ўжо. Акрамя таго, штосьці пагрозлівае ўтварылася вакол мяне. І тады я падняў галаву і ўбачыў, як гайня пераймае дарогу, спрабуючы затрымаць мяне. Ім заставалася толькі атрымаць ад кагосьці кліч, каб кінуцца на чалавека. Але ці таго кагосьці не было яшчэ сярод іх, ці ён спазняўся са сваёй камандай, аднак не адзін з іх упрытык да маіх каленак дарогі не засланяў. І я ішоў, ужо здагадваючыся аб небяспецы. Не ведаю, што магло здарыцца са мной, але выручыў мяне незнаёмы дзядзька, яўна дачнага выгляду з рукзаком за плячамі і з вялікім, можна сказаць, цяжкім кіем у руках, які ён трымаў напагатове. Здавалася, у адзін момант ён параскідаў з дарогі гэтым кіем сабак, дарэчы, зусім не шкадуючы іх, тады сказаў:

— Што ж гэта вы без касценя ходзіце?

Я не зразумеў.

Чалавек патлумачыў:

— Ну, з голымі рукамі.

— А-а, — сказаў я. — Дык...

— Яны цяпер, пакінутыя самі на сябе, здольныя на што хачаш. І тое сказаць, чалавечая няўдзячнасць.. Спярша просяць адзін у аднаго гэтых жа сабак, пасля на зіму кідаюць. Вось яны і шастаюць кругом, спрабуючы помсціць, каго напаткаюць. Так што без кія цяпер па дачных пасёлках хадзіць небяспечна.

Прызнацца, нягледзячы на ўрок, я не завёў сабе адмысловага адпужвальніка. Сцізорыкам нічога вартага не зробіш, а тапара, каб высекчы патрэбную дзеравінку, усё не папрашу ў будаўнікоў мясцовых катэджаў.

Цяпер у гайні, падобныя на сабачыя, пачалі збівацца людзі. Я неяк прыйшоў да думкі — ці патрэбны нам столькі партый? І ўвогуле — хіба настаў час партый? А між тым, якраз у іх акумулююцца ў нашы дні і ўся людская злосць, і ўсё грамадскае зло. Гэтым не хачу сказаць, што панацэя для выйсця з бяды, у якой апынуўся народ, у аднапартыйнасці. Наадварот, адной партыі лягчэй прывесці краіну да дыктатуры. Нам увогуле непатрэбныя цяпер партыі.

Іван ЧЫГРЫНАЎ

# КАРОТКІЯ АПАВЯДАННІ



Настаў беспартыйны час. Тое, што партыі і розныя прапартыйныя арганізацыі множацца, гэта таксама зразумела: яны часам патрэбны аднаму, двум чалавекам, ну, няхай групе, каб утрымацца за грыву палітычнага каня. Ва ўсім вінавата палітыка, ад якой, аказваецца, чалавецтву немагчыма адкараскацца. Можа, таму і Маркс усё яшчэ папулярны ў свеце. Прынамсі, патрэбны новыя мысліцелі, якія перачыталі б ранейшых і штосьці нарэшце сказалі пэўнае, хоць наўрад ці магчыма гэта. Але ж браць на сябе ролю мысліцеля кожнаму таксама недаравальна, дарма што даволі часта і выпадае. Раней, у часы Ісуса Хрыста, любілі слухаць і суправаджаць юродзівых, што ездзілі на аслах з паселішча ў паселішча. Цяпер — так званых мысліцеляў, якія добра калі маюць за душой закончаную вышэйшую адукацыю. І асабліва ў павазе ў так званага простага народа прадказальнае мысленне. Простую мову, простыя думкі ніхто не хоча слухаць. "Моў, навошта гэта мне, я і сам так умею?!" Дык што ж тады патрэбна сёння нашым людзям, калі нават шкодныя партыі? Добры лад, разумныя кіраўнічыя людзі. Але не ў старым сэнсе і ўжо зусім не цяперашнім.

А тым часам асобныя дзесяткі і сотні людзей збіваюцца ў гайні, падобныя на сабачыя. З той жа помслівасцю за свой былы страх, за крыўду (а крыўды хапала, здаецца, на ўсіх), за непрыкаянасць, за пагарду. Ды, урэшце, і за не дужа сытнае жыццё!.. Заімшэлыя камуністы ўжо прыходзяць у захапленне, нават у экстаз, калі параўноўваюць ранейшую беднасць з цяперашняй. Моў, пры нашым кіраўніцтве было ўсё-ткі лепей. Але ж няхітрая гэтая справа супастаўляць беднасць з беднасцю!..

Не ведаю чаму, аднак я асабіста гатовы дапамагаць хоць чорту з д'яблам, абы народ наш як хутчэй выбавіўся з цянётаў цяперашняй непрагляднасці, прыніжанасці і галечы. Можа, таму даволі часта атрымліваю позвы на розныя сходы, пасяджэнні, з'езды... Асабліва выкарыстоўваецца маё імя пры стварэнні новых газет і часопісаў, якія, на думку заснавальнікаў, павінны ўнесці нарэшце яснасць у праблемы, якія апанавалі грамадствам. Пры гэтым, я заўсёды пытаюся, якія партыі стаяць за тым альбо іншым выданнем. І кожны раз рэдактары-заснавальнікі запэўнівалі, што новае выданне ставіць сабе за мэту акумуляваць увесь спектр цяперашніх настрояў і думак. На жаль, часцей здараецца, што ўжо на трэцім, чацвёртым нумары пачынае выразна выступаць твар партыйнасці. А гэтага нібыта чакаюць. Тады ўсчынаецца вэрхал, і цябе імкнуцца паставіць да адной альбо да другой сцяны. Не паспела, напрыклад, выйсці ў свет газета "Отечество", куды мяне таксама запрасілі ў рэдкалегію (паўтараю, толькі яшчэ запрасілі, але згоды пакуль не атрымалі), як радыёстанцыя "Свабода", што скіроўвае службу на Беларусь, наладзіла з гэтага повлду перадачу. За каментатара гэты раз быў выбраны Вячаслаў Адамчык. Размову з ім вёў сын рускага паэта Вялянціна Тараса, таго Тараса, які ў гады савецкага рэжыму своеасаблівым чынам дапамагаў разбураць нашу мову, паказваючы сваім вопытам пісаць адразу на дзвюх. (Тады, помніце, нават тэорыя была пушчана з Масквы, што нарэшце настае Час, калі нацыянальныя пісьменнікі ўсё часцей стваралі свае творы на рускай мове, напрыклад, кіргіз Айтматаў, беларус Адамовіч...) Дык вось сын гэтага колішняга вынаходцы наўноўшай моднай тэорыі ў галіне вершаскладання, няйначай, што з благаславення бацькі, пачуўшы пра газету "Отечество" і ўведаўшы, каго можна будзе пабачыць у складзе рэдкалегіі, паспяшаўся па кароткай дачнай вуліцы да Адамчыка. І што ж у тым выступленні па замежным радыё інкрымінавалася Чыгрынаву? Аказваецца, ні многа, ні мала, як неафашызм: моў, спроба выдаваць у Беларусі падобную газету немінуча прывядзе... да неафашызму, які ўсё выразаней вырастае ў Расіі, перараджаючыся з нацыянальнага патрыятычнага руху.. Мне цяжка меркаваць, што гэта такое з-за сваёй занятасці, хапала б часу разабрацца з падзеямі і грамадскімі рухамі ў сябе дома, аднак хіба прыхільнасць да Расіі абавязкова прывядзе да чагосьці кепскага? Што, у Расіі цяпер нічога вартага ўвагі няма, акрамя нацыянальнага патрыятызму, які перарастае ў неафашызм? Не ведаю, як у каго, а ў мяне ўсе гэтыя скураныя партупеі і чорныя галіфэ з гімнасцёркамі выклікаюць адно ўсмешку. Між тым, мне аднолькава любы і Украіна, і Літва, і Латвія... Усе нашы суседзі. Хто, калі не я, падтрымаў выданне "Падляшша"?

Не так даўно рэдакцыя "Свабода" наладзіла перадачу.

Сам я замежнай перадачы не чуў. Пра яе мне расказаў адзін чалавек. А другі, які трапіў у нашу кампанію, з недаўменнем пацісніў плячамі, спытаў:

— А што гэта Адамчык мае супроць цябе? На пісьменніцкім з'ездзе, помню, выступаў з самымі брыдкімі абвінавачваннямі, адмаўляючы табе не толькі ва ўменні займацца кіраўнічай працай у СП, але ж і ў таленце?

— Цяжка сказаць, што часам штурхае нават чалавека з талентам на выпады супроць калегі, адмаўленне іншым у таленце, што свой найвышэй ставіць? Не выключана магчымасць, што мае характар сабачы, і па камандзе, а то і па сваёй крыўдзе, якую меў ад тых, з кім жыў і жыве побач, можа кінуцца амаль на такога ж небараку.

Я ўспамінаю ў наш час, як Вячаслаў Уладзіміравіч працаваў у Саюзе пісьменнікаў парторгам, сакратаром партарганізацыі, на якую ён цяпер гатовы пляваць, як на гарачую патэльню. Гэта быў самы рашучы праваднік камуністычных ідэй на пісьменніцкіх сходках, ледзь не зацяты функцыянер, дакладней, свядомы і адданы ганчак тых членаў СП, якія працавалі тады ў Цэнтральным Камітэце. "Мы навучым Чыгрынава любіць партыю! — крычаў ён з трыбуны на сходзе камінустаў. — Мы навучым яго апранацца, як след, каб не з'яўляцца сюды ў хламідзе!" А я і праўда прыходзіў іншы раз у пярэстай, быццам камуфляжнай блузе. Што зробіш, меў параўнаўча маладыя гады, хацелася не аднаму аддзелу культуры ЦК з яго стаўленікамі ў СП падабацца, дзяўчатам таксама!

Дзіўна, але ў мяне заўсёды знаходзіліся добразычліўцы, якія наперад ведалі пра намер збэсціць мяне альбо Адамчыкам, альбо Карамазавым... Зразумела, што добрыя таварышы папярэджвалі, і я на той час выходзіў з залы, нават калі сядзеў у прэзідыуме. Так было і на адным пісьменніцкім з'ездзе, часта падобнае здаралася таксама на партыйных сходах... Канечне, за блазна не дужа выпадала тады выдаваць сябе, у дасье зацікаўленым таварышам неабходна было дадаваць штокольвеч, таму ратавацца неяк усё-такі даволі часта таксама з'яўлялася патрэба.

І толькі заглянуўшы потым у архіве ў сваё былое цэкоўскае дасье, я зразумеў, які безабаронны бывае чалавек. Здаецца, ужо і член гаркома, і член абкома, і член ЦК... Хто рашыцца хапаць такога чалавека за лыткі? Аказваецца, усё гэта дадзена знарок, каб трымаць на павадку, у паслухмянасці, крый бог, паруш пабудову, тады разжуюць і выплюнуць, ператвораць у штосьці накшталт пракажонага. Хіба ж не таму некаторыя з так званых перспектыўных адыходзілі ў цень, асабліва, калі без парушынкі таленту. Прынамсі, іх можна пералічыць, яны яшчэ на памяці.

...Сённяшні дождж, які нахлынуў аднекуль за лістабоем, хутка аціхнуў, а тыя кроплі, што падалі з дрэў у прысадзе, сталі чамусьці цёплыя, усё роўна як толькі што прабіліся ўніз па гарачых пластах атмасферы. Кажуць, што з восенню да чалавека прыходзіць спакой. На яго ўжо не дзейнічаюць гэтак моцна знешнія сілы, у прыватнасці сонца, як улетку. Але раўнавагі дасягнуць ніяк не ўдаецца. Відаць, сам чалавек створаны так, што яго павінна час ад часу наведваць трывога, нават неасэнсаванае і акурат патаемнае. Бо наш арганізм хутчэй за ўсё своеасаблівы сейсмограф, які кожнае імгненне павінен адгукнуцца на ўсе праявы і выявіць найвышэйшую адчувальнасць.

Ну а што сабакі? Усё яшчэ збягаюцца ў гайні.

Можа, яны ўсё-такі перагрызуцца некалі? Перастануць чапаць тых, хто не мае аніякага дачынення да іхніх пакутаў?

## У ЗВОНЕ ПАВЕТРА

Дзіўна, але я шмат разоў выбіраўся ў парламент. І пры ранейшым рэжыме, і цяпер. І кожны раз не дасягаў поспеху. Так было і ў Бабруйску, і ў Пухавічах... Толькі ў Аршанскай выбарчай акрузе, дакладней, у Арэхаўскай, дзе Асінторф, прагаласавалі за мяне амаль аднадушна. Наконт Бабруйска і Пухавіч былі распараджэнні. Тады, бадай, у аднолькавае становішча са мной трапіў і Ніл Гілевіч, бо першы сакратар ЦК КПБ сказаў на нейкай вузкай нарадзе: ніякай дапамогі пісьменнікам ані блізка, няхай пераканаюцца, як нам даводзіцца. Як кажуць, чыя б карова мычала... Хто не ведае, што ў панаванне таварыша Сакалова за адным бонзам наперадзе сорак кур'ераў імчала. У Пухавічах мяне таксама назнарок пакінулі без падтрымкі мае камуністы...

Але нездарма кажуць — век вучыся, а дурнем памрэш. Прафесар Шарэцкі ўгаварыў мяне і сёлета паспрабаваць прайсці ў парламент. Я тут жа спаслаўся на гады, на хваробы, якія спадарожнічаюць гэтым гадам, словам, даў зразумець, што ўжо мала наяды з мяне нават лютаму зверу. Але ж з яго боку быў ужыты самы пераканаўчы аргумент — які гэта парламент выйдзе, калі не будзе ў ім сапраўднай інтэлігенцыі? Прынамсі, у доўгай паездцы (а мы з Сямёнам Георгіевічам ездзілі ў Шчорсы наконт узвядзення помнікаў Адаму Міцкевічу і святому беларускаму князю Лаўрыку перад царквой у Лаўрышаве). Можам шмат разоў памяняць жаданне. Апошні доказ Шарэцкага пасяліў у маёй душы роздум. У рэшце рэшт хтосьці падказаў і акругу, маю малую радзіму Касцюкоўшчыну, дзе на сесіі гарадскога Савета ў 1992 годзе з пашанай, прылюдна мне было нададзена званне Ганаровага грамадзяніна. Карацей кажучы, пагналі чалавека па крузе, як таго зайца. Паехаў я ў Касцюковічы на разведку. Здаецца, адносіны прыстойныя — што ж, прыязджай, Іван Гаўрылавіч, усміхнуўся было першы сакратар райкома, а цяпер старшыня мясцовай грамадзянскай улады ў раёне Агееў. Як і належыць, прыкінулі мы з намеснікам рэдактара раённай газеты, хто б згадзіўся стаць даверанымі асобамі, і я падаўся ў Мінск рыхтаваць дакументы для рэгістрацыі ў акруговай выбарчай камісіі. Вяртаўся адтуль у той вясенні дзень, калі паўз мяжу мёртвага мора (так я заву радыяцыйную зону) пачаў ездзіць па паўднёвым усходзе прэзідэнт Лукашэнка. Здаецца, ён і паўплываў на далейшы мой выбарчы шлях. Ён тады і ў друку, і па тэлебачанні, і на розных сходах даводзіў, што кандыдатамі ў дэпутаты павінны стаць мясцовыя людзі. Няйначай, што і ў Касцюковічах штосьці падобнае было сказана — навошта вам чужыя? Выбірайце, моў, сваіх, каго добра ведаеце. Ну а свае заўсёды знойдуцца ў дастатковай колькасці — начальнік міліцыі хоча стаць дэпутатам, дырэктар сельгасхіміі яшчэ мацней, суддзя таксама... Тым больш, што кіраўнік раённай вертыкалі не збіраецца выбірацца. Акрамя сваіх, чужым таксама няймецца. Беларускі народны фронт яшчэ ці не ўзімку накіраваў свайго прэтэндэнта. У яго маці ў Касцюковічах, ён жыве ў яе доме, ходзіць па вуліцах горада, дзе я ганаровы грамадзянін, блазнуе, збірае галасы, пырскаючы абычым на народнага пісьменніка... Нарэшце ажываюць і мясцовыя камуністы, якіх узначальвае ўсё той жа першы сакратар райкома. Першы ў атаку супраць мяне рынуўся старшыня акруговай выбарчай камісіі Аўдзееў. Раптам яму прыйшла ў галаву падазроная думка, што аграрная партыя, якая прапанавала мне выбірацца, не па правілах была створана ў раёне. Пачалі варушыць справу. Уключаны ў яе аказаліся не толькі Касцюковічы, але Магілёў, Мінск... У кабінет старшыні райвыканкома пачалі запрашаць членаў аграрнай партыі. Тым абрызела валтузня, сёй-той адмовіўся ад членства. Аднак парушэнні пры стварэнні партыйнай арганізацыі былі прызнаны выдумкай мясцовых камуністаў. Здавалася, можна супакоіцца. Толькі куды там? Выбарчая камісія на сваім пасяджэнні ўсё роўна адмаўляе ў маёй рэгістрацыі. Тады бярэцца за высвятленне справы адзін з членаў Цэнтральнай выбарчай камісіі. У часе камандзіроўкі ён сустракаецца з дасведчанымі людзьмі, пераконваецца ў незразумелых прыдзірках і выносіць пытанне на пасяджэнне Цэнтрвыбаркама. Такім чынам, рэгіструе мяне кандыдатам у дэпутаты па Касцюковіцкай выбарчай акрузе Цэнтральная камісія. І вось я прышпільваю гонар, еду на радзіму. Вязу апошнія даведкі. Бачу, на ганку райвыканкома стаіць старшыня раённай камісіі Аўдзееў. І я, як на тое, кінуўся яму ў вочы. Але каб не сустрэцца твар у твар, ён пужліва сігае ў нейкія дзверы, знікае. Так я і не ўбачыў больш яго той раз. Перамовіўся на хаду са старшынёй райвыканкома, перакінуўся словам з бэнээфаўцам. "Я пару вашых апавяданняў, здаецца, чытаў, — прызнаўся ён, каб прынізіць саперніка, — але ж нічога там асаблівага. Нават незразумела, адкуль ваша званне?" Што ж, з'ясі і не такое?

Звычайна, ездзіў я ў выбарчую акругу за свае грошы. Дзяржаўных хапіла ўсяго на адну паездку туды і назад ды на гасцініцу. А тут якраз указ прэзідэнта аб выбарах з'явіўся. Амаль лагерны — ні транспарту, ні памяшканняў для агітацыі, ні лістовак. Дакладней, ступіш са строю налева — расстрэл, зробіш крок направа — таксама атрымаеш кулю. Значыць, на выездзе мала каму з кандыдатаў пашанцуе. Лягчэй тым, хто выбірацца будзе дома, — ні табе транспарту не трэба, ні гасцініцы, ні сталоўкі; галоўнае, без вялікіх грашовых затрат можна абысціся...

Яшчэ не час быў распачынаць агітацыйную кампанію, і я сабіраўся ў Мінск, балазе машына спадарожная трапілася назаўтра. Мы выехалі з пасёлка цэмзавода рана, на траве яшчэ ляжаў марозны іней. Дзень тым часам адным небам, чыстым і высокім, абяцаў высвеціцца зусім, з ціхім ветрам, з добрым подыхам летняга надвор'я, якое памарозіла ў сялянскіх садах яшчэ амаль у цвеце, дробненькія яблычкі. У Беларусі сады звычайна пладаносяць праз год, і сёлетняя вясна павінна была мець на дрэвах моцную завязь, але толькі ў зацішках маразы не кранулі ўраджай. Такім чынам, у большасці ялаваць сады засталіся і на другі год. Шмат яблык у гаспадарцы кожны год выклікае ў сялян незадаволенасць, іх няма дзе перапрацоўваць, бо саматугам увесь ураджай не перапрацуеш, патрэбны кааператыўныя альбо дзяржаўныя заводзікі. Але калі зусім няма ў тых жа садах яблык, неяк становіцца самотна. Канечне, да самоты сёлета яшчэ заставалася далёка, бо толькі пад дрэвамі можна было бачыць засланую драбязою зямлю. Не ведаю, як для каго, а мне заўсёды ялавыя сады нагадваюць штосьці непаўнацэннае.

Цяпер у Касцюковічах у свет ездзяць па дзвюх дарогах — скрозь па чарнобыльскіх землях на Краснаполле, а тады — на Чэрыкаў, дзе супраць Вепрына, ужо амаль на беразе Сажа, стаіць міліцэйскі пост з шлагбаумам пасярод шашы; другая дарога — праз Клімавічы, Крычаў, тады зноў на Чэрыкаў. Можна і карацей праехаць, аднак тады ўжо не прамінеш Чудзяны, Малінаўку, дзе самая высокая ў Беларусі радыяцыя. Мы ж на сёння падаліся на Гарбавічы, каб патрапіць па чарнобыльскай зоне ў Краснаполле. Сонца яшчэ не ўзыходзіла, у паветры стаяла такая глухая цішыня, што нават здавалася, што ў паветры чуваць нейкія шорахі, быццам хтосьці махае крыламі; тым часам вушы напаўняе звон, які невядома аднекуль сыходзіць; словам, ні даць, ні ўзяць, звініць само паветра...

Між тым, абапал шашы цяжка было глядзець і як бачыць вока, паўсюды чарнелі выгаралыя палеткі. Цяпер яшчэ, пакуль драмаў вецер, таму сажа ціхмана заставалася на зямлі, не забівала дыханне, не ператварала белых людзей у эфіопаў. Цяжка сказаць, хто браў на сябе ролю падпольшчыкаў леташняга быльніку, які скрозь буяў на пустой зямлі, аднак рабіў гэта не дужа асцярожна — пажары па зямлі дапаўзалі да вёсак, загараліся хаты; здаралася, што выселеныя вёскі шугалі полымем ледзь не кожнага дня; можна ўявіць сабе, як і куды распаўсюджваецца ў паветры радыяцыя і дзе толькі яе цяпер няма. Сёння яшчэ ж было рана, аднак пажары навокал ужо шугалі. Некалі мне даводзілася бачыць у вайну, як гарэлі забесядскія мястэчкі і вёскі. Штосьці падобнае здавалася і цяпер. Прытым дым чамусьці не засціў полымя, і яно вольна мітусілася па вялікіх плошчах, спальваючы разам з сухой травой узлескі, а то і так званыя бярозавыя калкі, якія даўно не закранала ворыва. Пажары ў сельскай мясцовасці ўвогуле

(Працяг на стар. 14-15)

## "УПЕРШЫНЮ Ў РАСІІ"

**...З'явіўся спектакль "Цнатлівы шлюб" ("Беззаганны мар'яж") паводле Тадэвуша Ружэвіча дзякуючы пастановачнай групе з Беларусі: Алегу Жугжду (рэжысёру), Валерыю Рачкоўскаму (мастаку) і Паўлу Кандрусевічу (кампазітару). Адбылося гэта ў Санкт-Пецярбурзе, у Вялікім лялечным тэатры 30 верасня. Так, у лялечным увасабленні! Што ўжо само па сабе надзвычай адметна для п'есы, якая распавядае пра абуджэнне да сталага, жаночага жыцця дзяўчатак-падлеткаў... У спектаклі выкарыстана сістэма планшэтных лялек (яны нагадваюць маленькія манекены), наўсю — так званы "жывы план", калі ўжо сама акцёрская прысутнасць на сцэне атаясамляецца з матэрыялізацыяй лялькавай душы; акцёры — у белых гарнітурах на фоне белае мэблі і белых кулісаў. Краты каміна, дзе разгортваецца ладная частка відовішча, вырашаны ў стылі мадэрн. Лялькі адметна каляровыя...**

**А 7 кастрычніка Алег Жугжда адкрываў сезон у Магілёўскім абласным тэатры лялек прэм'ерай лялечнай оперы "Чырвоны каптурок" паводле Шарля Пэро і ўласнага лібрэта. Падобна, што прэм'ера абяцае зрабіцца падзеяй. Лімаўскі карэспандэнт запрошаны тэатрам, каб відавочна пераканацца ў гэтым, напрыканцы лістапада.**

**Антаніна ЗАБЛОЦКАЯ**

## ШЭСЦЬ САНАТ У СУМАХ



**Тыдзень доўжыўся ва ўкраінскім горадзе Сумы традыцыйны Міжнародны музычны фестываль пад назваю "Бахфэст". Сярод удзельнікаў — а гэта музыканты з Аўстрыі, Польшчы, Украіны — быў і вядомы беларускі дуэт: скрыпач Вячаслаў Зяленін ды клавесініст і арганіст Аляксандр Мільто. У іх выкананні гучалі санаты І.-С. Баха для скрыпкі з арганам, клавесінам і сола. Канцэрты ладзіліся ў Троіцкім саборы, пабудаваным па праекце вядомага архітэктара Шчусева і распісаным паводле эскізаў яшчэ аднаго майстра — Несцерава. Быў аншлаг і цёплы прыём.**

**Н. К.**

*Здымак зроблены падчас канцэрта В. ЗЯЛЕНІНА ды А. МІЛЬТО ў Мінску.*

## І ЗНОЎ УЗНАГАРОДА

**Параўнальна нядаўна "ЛіМ" паведамляў пра поспех нашай зямлячкі Тоні Казловай і песень яе маці, кампазітара Ганны Казловай на музычным фестывалі ў Адэсе. І вось Тоня, адзіная прадстаўніца іншай дзяржавы, вярнулася ў Мінск з фестывалю дзіцячых творчых калектываў "Юныя таленты Расіі". Яна выступала ў Яльце, дзе праходзіў заключны гала-канцэрт лаўрэатаў і гасцей гэтага музычнага форуму. Выступала ўжо як скрыпачка, побач з такімі вядомымі выканаўцамі, як Юры Багацікаў, Віктар Папоў і іншыя. Там яна атрымала званне дыпламанта фестывалю (за выкананне сола на скрыпцы з Дзяржаўным сімфанічным аркестрам Ялцінскай філармоніі). Юная беларуская скрыпачка выступала ў Севастопалі на баявым крэйсеры, у Алупцы і іншых мясцінах Крыма. Старшы выкладчык Беларускага універсітэта культуры кампазітар Ганна Казлова, якая была кіраўніком лабараторыі вакальнага мастацтва гэтага фестывалю, адзначана лістом-падзякай.**

**Пятро ГАРДЗІЕНКА**

***Яшчэ на золаку кінематографа савецкага "ішлі спрэчкі" аб шляхах і метадах павышэння глядацкага поспеху фільмаў, іх здольнасці выцясняць з экранаў, як тады пісалі газеты, прадукцыю з мяшчанскай мараллю і буржуазнай ідэалогіяй. Выказалі свае меркаванні і стваральнікі шырокавядомых класічных кінатвораў. (Дарэчы, пакуль "авангардысты" 80-90-х развенчвалі савецкае кіно, заходнееўрапейскія і амерыканскія тэарэтыкі назвалі яго вялікім). У тэарэтыка-крытычнай спадчыне С. Эйзенштэйна, У. Пудоўкіна, А. Даўжэнкі, бр. Васільевых знаходзім выказванні, якія можна звесці ў адзіны "кодэкс" узаемадачыненняў стваральнікаў фільмаў з гледачамі. Найпершае і галоўнае яго патрабаванне — ведаць і ўлічваць рэакцыю гледачоў, уплываць на яе. У працэсе творчасці на першы план выносіць задачу: захапляць зместам і эстэтыкай. Паўнацэнная кінакарціна, па словах С. Эйзенштэйна (аўтара артыкула "Одолжайтесь!"), павінна "одолжать", а не "занимать", "захватывать", а "не развлекать". Пры гэтым, у паняцце "захапляць" майстар укладаў уменне прапанаваць "жывы і арганічны" матэрыял і арганізаваць, увасобіць яго так, каб ён закранаў розум і пачуцці, прыцягваў слых, вабіў вока.***

# НЕ ПРАКЛЁНАМІ, А ЎМЕННЕМ

## ДЛЯ СЯБЕ І ДЛЯ СВАІХ ФУНДАТАРАЎ РЫЗЫКУЮЦЬ ЗДЫМАЦЬ КІНО НАШЫ ТВОРЦЫ

Сёння айчынныя фільмы амаль зніклі з экрана. Пракатчыкі сцвярджаюць, што калі яны іх і прапануюць гледачам, кіназалы пустыя... Фільмы выпускаюцца, наладжваюцца прэзентацыі, фестывалі, іншыя ацэньваюцца прэсай, радыё- і тэлекаментатарамі, асобныя на кароткі час трапляюць у пракат. Паўсядзённыя ж рэпертуарныя праграмы кінатэатраў і кіна-відэа-салонаў складаюцца з фільмаў "далёкага замежжа", больш як на 90 працэнтаў — амерыканскіх. На абцяжараныя клопатамі аб маральна-эстэтычных выніках сваіх паслуг, дылеры падбіраюць прадукцыю пераважна невысокага гатунку. Галоўнае, каб былі нейкія "прынады". І трэба аддаць належнае амерыканскім кінавытворцам: яны ўмеюць рабіць прынадна. Пры дапамозе дынамікі, жанраў, тэхнічных сродкаў, сентыментальных перапынкаў у самых крывавых або неверагодных гісторыях. Ну, і славутыя "хэпі-энды" — нязменны атрыбут "глядацкага кіно". Як і сцэны сексу, пагонь, панарам па расквечаных агнямі вуліцах — адзін са сродкаў рэкламы амерыканскага дабрабыту. Поўны набор уражлівасці са смакам... жуйкі — як у тых, хто на экране, так і ў тых, хто перад ім. Карацей кажучы, сервіс на ўсе густы.

Можна ставіцца да ўсяго гэтага з іроніяй, называць спекуляцыяй на мастацтве, субкультурай і іншымі малапаважанымі эпітэтамі — іх заслугоўвае цяперашні рынкавы кінематограф. Але нельга і не лічыцца з тым, што ён паспеў ужо падрыхтаваць сабе гледачоў, якія чакаюць, каб і пасля паказу розных вампіраў і гвалтаўнікоў іх нечым суцешылі. Суцяшальніцтва — адна з якасцей пабудаванага на міфах кінематографа. У ачышчальным, ружовым колеры ім шырока карысталася савецкае кіно і таму па многіх ягоных стужках сёння такая настальгія. І калі ўсур'ёз думаць аб тым, як адваяваць пракатную прастору, можна сказаць, без бою аддадзеную прыстасаваным для манеўраў кінадзялкам, — з гэтым нельга не лічыцца. На адным з кінасімпозіумаў вядомы польскі рэжысёр Кшыштаф Занусі гаварыў: "Мы павінны вучыцца адольваць экспансію масавай амерыканізаванай культуры не праклёнамі, а ўменнем рабіць свае захапляючыя фільмы, не губляючы прэстыжу мастацтва". "Еўрапейскае кіно яўна робіць штосьці не тое, — лічыць не менш вядомы нямецкі рэжысёр, прэзідэнт кінаакадэміі Вім Вандэрс. — За амерыканскім фільмам стаіць стратэгія, якая спрацоўвае па плане, дзень за днём. У Еўропе ж бальшыні фільмаў застаецца спадзявацца *толькі на рэцэнзіі ў газетах*" ("Эхо планеты", 1994, NN 2—3). Фільмы ж, якія ствараюцца ў Беларусі, мяркуючы па тым, як бессістэмна ў нас асвятляецца кіно, не маюць і такой спадзеўкі. Яе трэба ствараць усім, хто прыдатны да кінематаграфічнай справы, — самім вытворцам фільмаў, работнікам кінапракату, сродкам масавай інфармацыі.

Пры ўсіх складанасцях рынкавых адносін, якія немінуча ператвараюць кожны твор у тавар, **найбольш надзейны абаронца фільма — сам фільм, заключаная ў ім энергія прыцягнення**. Калі яна ёсць, фільм выжыве, будзе вяртацца на экраны зноў і зноў. Прыкладаў такіх нямала ў кінематаграфіях усіх краін, яны ёсць і ў беларускім кіно розных перыядаў яго гісторыі.

У даваенні і пасляваенны час па ўсёй краіне з поспехам дэманстраваліся "Шукальнікі шчасця" і "Маё каханне" У. Корш-Сабліна з папулярнымі песнямі на музыку І. Дунаеўскага; некалькі разоў вярталася на экраны сатырычная камедыя "Паручнік Кіжэ" (паводле аповесці Ю. Тынянава, рэжысёр А. Файнцымер). Яны вабілі, прыносілі асалоду жыццярадасным пафасам, цікавымі вобразамі герояў. Далёка за межамі рэспублікі ведалі нашыя "Чырвонае лісце", "Праз могілкі" і "Альпійскую баладу", "Івана Макаравіча", "Людзей на балоце", "Знак бяды", "Ідзі і глядзі". Можна яшчэ прыгадаць некалькі беларусьфільмаўскіх стужак з шырокай прасторай пракату. А якія дыскусіі ў прэсе былі вакол фільма В. Рыбарава "Яго клічуць Арлекіна"!

... Здараецца, што фільм не мае знешняй кідкасці, уражлівай формы, а застаецца з табой пасля прагляду як нейкі важны акт духоўнага суперажывання. Да такіх я асабіста аднесла б раннюю карціну В. Турава "Я родам з дзяцінства". Трыццаць гадоў таму яна выйшла на экраны амаль непрыкметнай. Ішлі гады, з'явілася новае пакаленне гледачоў і яны па-іншаму ацанілі твор — спасціглі яго ўнутраную напоўненасць, шчырасць пачуццяў герояў і аўтараў. Гістарычны кантэкст выявіў такія вартасці твора маладога тады, рэжысёра, якія вызначылі яго арганічную прыналежнасць да асветленага надзеяй спавядальнага мастацтва шасцідзесятых гадоў. А яно адлюстравала памкненні не аднаго толькі пасляваеннага пакалення. Сканцэнтраваная ў лепшых творах таго часу энергія лучыцца і дагэтуль — я адчуваю гэта кожны раз, калі надараецца магчымасць глядзець "старое кіно".

Але ж старым не пражывеш, новы час вымагае новых песень, мовіць народная мудрасць. Яны са сваім гучаннем, на якіх бы традыцыях ні грунтаваліся. Кінематограф не з'яўляецца выключэннем з агульнага творчага працэсу, а можа, нават найбольш паказальны таму, што па прыродзе сваёй сінтэзуе ўсе віды мастацтва і найбольш падвержаны ўплыву дынаміцы жыцця. "Масавае кіно" гэта добра адчувае і напорыста навязвае свае крытэрыі. Яно выкрутлівае, умее прыстасоўвацца да розных густаў і настрояў. Так званае элітарнае, або некамерцыйнае кіно нярэдка бесклапотнае. Падобна, што яно ўжо звыклася з парадоксам: фільмы, адзначаныя на фестывалях, у шырокі пракат не трапляюць — там пануе "маскіно" са сваёй сістэмай ловаў на гледача. Зразумела, нармальнае прыстойнае кіно не можа карыстацца тымі ж прыёмамі, але яно не павінна і "драмаць", чакаючы, пакуль яго заўважаць і ацэняць, а яшчэ лепш — падрыхтуюць асобную аўдыторыю. Не, яе можа і павінна рыхтаваць само кіно, творамі, што маюць не прынады "ажыўляжу", а ўнутраную сілу прыцягнення.

Калі пашукаць такія фільмы сярод беларускіх вытворчасці апошніх гадоў, знойдзеш няшмат. Адзін з іх — "Круглянскі мост" паводле аднайменнай аповесці В. Быкава. У творы 60-х гадоў рэжысёр-дэбютант А. Мароз і малады драматург, — аўтар сцэнарыя М. Шэлехаў, аператар А. Абадоўскі сродкамі кіно выявілі галоўнае — маральны аспект адлюстраванай пісьменнікам сітуацыі: чацвёра партызан ідуць узрываць мост, губляюць камандзіра, заданне выконваюць цаной гібелі мясцовага хлопчыка, сына паліцая. Суддзёй паводзін усіх выступае партызан-падлетак. Сітуацыя ўзноўлена так, што ён — галоўны герой, у яго вобразе праявіліся рысы, якія вызначаюць сапраўдны менталітэт нацыянальнага характару. Ненавязлівае, нетаропкае выяўленне чалавечых якасцяў, арганічна пераасэнсаваных выканаўцам ролі А. Кукарэкам, і абумовілі пранікнёнасць кінатвора, яго здольнасць выклікаць на роздум і суперажыванне. У даволі ўжо шматлікіх экранізацыях твораў В. Быкава "Круглянскі мост" не згубіцца, бо мае не толькі пісьменніцкі, але і свой — кінематаграфічны патэнцыял уздзеяння.

Не знаходжу яго ў двух апошніх фільмах паводле В. Быкава — "Пайсці і не вярнуцца" і "На чорных лядах". Рэжысёры М. Князеў і В. Панамароў трымаліся сюжэтна блізка першаасновы, ідучы па знешняй канве твораў неадназначнага сэнсу. Па сутнасці, яны праілюстравалі першы план падзей, апісаных пісьменнікам. А такія экранізацыі звычайна збядняюць літаратурны твор, дзе, як правіла, глыбіннае выяўляецца праз падрабязнасці, падтэкст, аўтарскія адступленні. У сцэнарыі яны звычайна скарачаюцца, а замены ім не знаходзяць (выключэнне — "Узыходжанне" Л. Шапіцька паводле аповесці В. Быкава "Сотнікаў", дзе рэжысёрка па ўзроўні мыслення не саступіла пісьменніку). Калі я раней чытала аповесць "Пайсці і не вярнуцца", яна здавалася нейкай асобнай у коле быкаўскіх канфліктаў складанага выбару, які паўстае перад чалавекам у крытычны момант. У тэлефільме наўрад ці хто знойдзе нечаканае праяўленне вобразаў сувязной Зоські і так званага партызана Антона. Усё, што з імі адбылося, — пададзена схематычна, спрошчана. А калі няма **адкрыцця** вобразаў, — на чым жа тады трымацца глядацкай цікавасці? У амерыканскім кіно многае кампенсуецца знешняй дынамікай, тэхнічнымі эфектамі, выканаўцамі-зоркамі. У нашым кіно склаліся традыцыі канцэнтраваць увагу на лёсах і характарах герояў, але ж рэдка адбываецца іх глыбіннае спасціжэнне.

З апошніх твораў В. Быкава, звернутых да гістарычнага мінулага Беларусі, рэжысёр В. Панамароў выбраў найбольш палітычна завостраны — апавяданне "На чорных лядах". У сцэнарыі, які стварылі рэжысёр і пісьменнік, скарыстана таксама сітуацыя з апавядання "Перад канцом" (пра тое, як у грамадзянскую афіцэр з-пад Полацка, "родам з фальваркоўцаў", трапіў у чэкісцкі склеп і адтуль пайшоў у свой апошні шлях). Гэта толькі эпізод фільма, аснова зместу і структуры — блуканне па лесе, ачэпленым чырвонаармейскімі атрадамі, рэшткі батальёна паўстанцаў (змагароў за незалежную Беларусь) на чале з камандзірам. В. Быкаў пачынае расповяд з апісання моманту, калі "прыйшлі кранты і на групу Улашчыка" — чырвоныя палявалі на іх, нібы на ваўкоў. Камандзір ужо ведаў, што не сёння, дык заўтра яны ўсе палягуць. І каб не апынуцца ў палоне і тым самым стаць прычынай расправы з роднымі, "восем абадраных, згаладнелых, аброслых барадамі валацуг", спаліўшы дакументы і іншыя рэчы свае, "вырашылі сёння канчаць"...

Гэта "закадравая" інфармацыя, а будуецца фільм на працэсе самапахавання — капаюць агульную магілу і застрэльваюцца ў ёй, апошнім гэта робіць сам камандзір, загадваючы самаму малодшаму — Валодзю Улашчыку закапаць, зруйнаваць яму (каб следу не засталося) і жыць за ўсіх, за бацьку, што загінуў за Беларусь...

У апавяданні матыў ахвярнасці быў

раствораны ў лаканічным апісанні кожнага з удзельнікаў падзеі. Лапідарнасць экрана ўсё схематызавала, спрацїла і ўзнаўленне акта самазабойства засталося самамэтным. Фільму не стае, на мой погляд, галоўнага — даследавання акалічнасцей, што прывялі герояў да такога выбару. Аўтары сцэнарыя не скарысталі мажлівасці пашырыць межы зададзенай сітуацыі, каб прыглядзецца да кожнага з персанажаў. Гэта спрыяла б большай кантактнасці кінастужкі з аўдыторыяй. А так атрымалася ілюстрацыя аднаго з фінальных момантаў паўстання, якое пазначана ў гісторыі Беларусі як Слуцкі збройны чын. Для **мастацкага** твора гэтага недастаткова.

Наша кіно ведае прыклад, калі філасофскія і эстэтычныя параметры твора спалучыліся, — у стужцы "Ідзі і глядзі" А. Адамовіча і Э. Клімава. Выпушчаная сумесна "Беларусьфільмам" і "Масфільмам" дзесяць гадоў таму, дылогія мела моцны рэзананс у многіх краінах свету. У ёй фашысцкі генацыд на Беларусі паказаны з такой сілай, якой дагэтуль экран не выпучаў. І эстэтыка там адпаведная — жорсткая, бязлітасная, якую цяжка вытрымаць. Аўтары скарысталі яе дзеля таго, каб, па словах А. Адамовіча, праз апакаліпсіс вайны перадаць мальбу аб міры. Кінадылогію паглядзелі больш за дваццаць мільёнаў гледачоў за перыяд пракату ў 1985—1986 гг. Праз дзесяць гадоў рэжысёр Клімаў у адным з інтэрв'ю прызнаецца: "Фільм трэба было рабіць яшчэ больш жорсткім: мы не дабралі да праўды рэальнасці..." ("Искусство кино", 1995, N 5).

Беларускія рэжысёры звычайна больш літасцівыя да гледачоў, пазбягаюць жорсткасці, якую так ахвотна дэманструюць стваральнікі розных "супераў" і "крыміналаў". Гуманізм — адна з асаблівасцей нашага кіно. Але ж бывае, што сам матэрыял вымагае экстраардынарнай стылістыкі. І калі кінематаграфісты грэбуюць такой залежнасцю, шмат губляюць у дасягненні таго, што я вызначаю як патэнцыял прыцягнення фільма, здольнасці яго ўключаць гледачоў у арбіту свайго зместу і структуры.

У канцы мінулага года адбыліся прэм'ера і грамадскі прагляд фільма майстра нашага кіно В. Турава "Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях". Гэта першы зварот да творчасці Яна Баршчэўскага, на многія дзесяцігоддзі адлучанага ад нацыянальнай культуры. Узноўлены паданні даўніх часоў, што "пераходзілі ад чалавека да чалавека" сярод жыхароў "мясцін паўночнай Беларусі, Полацкага, Невельскага і Себежскага паветаў..." Так пісаў аўтар у 1844 г., калі склалася кніжка. У ёй першае апавяданне пра заможнага шляхціца Завальню, сядзіба якога "стаяла ў чароўнай мясціне", а сам пан любіў "слухаць чарадзейныя гісторыі". І ўсе, хто трапляў у шляхецкі маёнтак, распавядаў іх. І зразумела, што асноўным месцам дзеяння пастаноўшчык (ён жа аўтар сцэнарыя разам з кінадраматургам Ф. Коневым) зрабіў адкрыты для вандроўнікаў дом Завальні, а самога яго — галоўным героем.

Уладзімір Гасцюхін апраўдвае сваю загалоўную ролю, ствараючы вобраз чалавека цікаўнага і разумнага, які верыць, што дабро здольнае перамагчы злодзеяў і пачвар. Гэтая лінія паралельна з той, дзе паказаны Цмок-чарадзей і яго скляпенні, складаюць змест фільма — з многімі персанажамі, касцюмамі і інтэр'ерамі пад даўніну. Аператар К. Рамішэўскі скарыстаў для гэтага шматфарбную палітру. І пры ўсім тым фільм не выклікае такога ўражання, на якое ён прэтэндаваў. Найперш таму, што аўтары "не вытрымалі" жанр, не скарысталі ў поўнай меры яго дынаміку і незвычайнасць. А гатоўшчыкі "відовішчаў", што лічацца выратавальнікамі цяперашняга пракатнага рэпертуару, карыстаюцца падобнымі магчымасцямі, можна сказаць, здорава.

Праблема, якая закранута ў гэтых нататках, сёння — найвастрэйшая. Сітуацыя, створаная з удзелам саміх кінематаграфістаў, не можа быць пераадолена без іх жа захадаў. Інакш — тварыць будуць... самі для сябе і сваіх фундатараў.

**Ефрасіння БОНДАРАВА**

*Музыка*

# ФЕСТЫВАЛЬ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

Сёння, 10 лістапада, у Камернай зале Белдзяржфілармоніі адбудзецца канцэрт Мінскага абласнога камернага хору "Sonorus" пад кіраўніцтвам А. Шута. У праграме — фрагменты "Усяночнай" Сяргея Бельцюкова і "Літургіі св.Іаана Залатавуста" Алега Залётнева. Гэты харавы вечар працягвае праграму фестывалю "Адраджэнне беларускай капэлы", які пачаўся 6 лістапада і прысвячаецца рэлігійнай музыцы Беларусі. А заўтра, 11-га, у той жа зале выступіць Камерны мужчынскі хор "Унія" пад кіраўніцтвам К. Насаева. У праграме музыка праваслаўнай, каталіцкай і пратэстанцкіх традыцый ад XVI да XX ст. Чакаецца выкананне трох нумароў з Супрасльскага ірмалоя (1598—1601 гг., укладальнік Багдан Анісімовіч з Пінска), пасля прагучаць тры рэспансорыі з рукапісаў Слонімскага бернардзінскага кляштара (др. пал. XVIII ст., аўтар невядомы). "Песня пра небяспечнасць чалавечага жыцця" Цыпрыяна Базыліка прадставіць пратэстанцкую музычную традыцыю (вядома, што гэты кампазітар разам з Вацлавам з Шамотул працаваў пад апекаваннем Мікалая Радзівіла Чорнага, які вельмі спрыяў распаўсюджванню на Беларусі ідэй Рэфармацыі). Праваслаўныя псальмы Васіля Цітова на тэксты з "Рыфматворнага псалтыра" Сімяона Полацкага прадоўжаць праграму. Беларускую сучасную каталіцкую традыцыю прадстаўляе ў гэтым канцэрце "Missa" для мужчынскага хору Аляксандра Літвіноўскага. Сам кампазітар зазначае: "Імша — самы высокі духоўны музычны жанр. Тэта рэлігійны рытуал, выкрышталізаваны стагоддзямі. Мяне зацікавілі найбольш старадаўнія тыпы імшы — эпохі Сярэднявечча для хору без інструментальнага акампанементу".

Праграму заключнага канцэрта фестывалю (12 лістапада, Вялікая зала філармоніі) складаюць творы беларускіх кампазітараў XX стагоддзя. Сярод аўтараў — вядомыя кампазітары-эмігранты Мікола Куліковіч (1897—1969) і Мікола Равенскі (1886—1953), творы якіх ужо гучалі ў імпрэзах аб'яднання "Беларуская Капэла". Апрач таго, прагучаць літургічныя хоры А. Туранкова, Піхуры (Гая дэ Пікарды), Саломкі, М. Анцава, М. Бутомы, М. Валынчыка.

Але і пасля фестывалю Нацыянальнае тэатральна-канцэртнае аб'яднанне "Беларуская Капэла" плануе знаёміць слухачоў з рэлігійнай музыкай Беларусі. На падыходзе — выкананне музыкі Сярэднявечча, XIX стагоддзя (В. Казлоўскі), пачатку XX стагоддзя (К. Горскі). Вядуцца пошукі літургічных твораў Ф. Міладоўскага, Н. Орды. Рыхтуюцца да выдання нотныя зборнікі і навуковыя даследаванні па праблемах беларускай хрысціянскай музыкі.





**Наталля СОБАЛЕВА,**
**музычны рэдактар**
**"Беларускай Капэлы"**

*На здымках: харавыя калектывы — удзельнікі фестывалю: "Унія", "Sonorus".*

# А ГАРМОНІК ГРАЕ, ГРАЕ...

Музыка, такая знаёмая, іскрыстая, зухаватая сустракала ўсіх, хто прыйшоў у Дом ветэранаў на пятае традыцыйнае свята "Мінскі гармонік-95". Апранутыя ў беларускія нацыянальныя строі самадзейныя музыканты старанна, з захапленнем гралі, нават здавалася, ногі не маглі ўтрымацца на месцы, самі неслі ў скокі. На нейкі момант фае быццам бы ператварылася ў звычайную вясковую вуліцу, дзе танцаваў натхнёны люд.

А на сцэне праходзіў конкурс гарманістаў і выканаўцаў прыпевак, выступалі людзі самых розных узростаў — ад школьнікаў да ўбеленых сівізной ветэранаў. Самаму старэйшаму з іх, маладжаваму зграбнаму Пятру Аляксеевічу Ешчанку — восемдзесят тры.

Многія ўдзельнікі свята гэта тыя, хто нарадзіўся на вёсцы, памятае доўгія вясёлыя танцавальныя вечары амаль да світанку пад гармонік — з жартамі, прымаўкамі, вясёлымі гумарыстычнымі прыпеўкамі. І са сцэны не раз гучалі вядомая беларуская полечка, кракавяк, падыспань, цыганачка, але інтэрпрэтацыя, трактоўка ў кожнага была свая.

Парадавалі слухачоў выканаўцы прыпевак. Яны спявалі пра каханне, пра тое, чым зараз жыве наш народ, пра цяперашнія жыццёвыя цяжкасці — выразна, смела, але добразычліва, з гумарам. Не забыліся і пра членаў Вярхоўнага Савета рэспублікі, і нават прэзідэнта. Шчырыя прыпеўкі знайшлі водгук ва ўдзячных слухачоў, што пачулі голас беларускага народа, які ўпэўнена заявіў пра сваю нацыянальную годнасць.

Сярод гарманістаў журы адзначыла мінчаніна Міхаіла Касцюкевіча: ён пяты раз стаў лаўрэатам. На думку старшыні журы кампазітара Аляксандра Рашчынскага, у самадзейнага музыканта адчуваецца творчы рост. Наогул, М. Касцюкевіча называюць апантаным музыкай. Дзесяткі гадоў ён грае на гармоніку. Пад акампанемент Міхаіла Касцюкевіча вельмі любяць танцаваць. З задавальненнем запрашаюць яго граць на вяселлях. А тыя, хто прыходзіць адпачываць у сталічны парк імя 50-годдзя БССР, танцуюць там пад ягоны гармонік.

З захапленнем выступалі на свяце гарманісты з Мінска М. Слізкі, Ю. Кашэўскі. Яны ж навучыліся граць яшчэ з дзяцінства. Добра, дасканала ведаюць свой інструмент, разбіраюцца ва ўсіх яго тонкасцях, могуць так па-майстэрску адрамантаваць стары паламаны гармонік, што ён будзе амаль як новы.

У кожнага артыста-аматара свой шлях да музыкі. Вось, напрыклад, самадзейны кампазітар, гарманіст Барыс Гергалаў нават у сваёй песні расказаў пра тое, што навучыўся ён іграць на гармоніку ад бацькі, які захапляўся ігрой з дзяцінства. Дарэчы, пра захапленне музыкай з дзяцінства: славутыя "Дударыкі" — узорны ансамбль нацыянальнай школы-гімназіі Заводскага раёна Мінска — захапілі публіку сваёй шчырасцю, выступілі яскрава. Тэмпераментна і быццам бы на крылах кружылі па сцэне ўдзельніцы ансамбля "Веселуха" Дома культуры вытворчага аб'яднання "Белбудіндустрыя". Можна сказаць, што калектыў апраўдвае сваю назву. Выканаўца прыпевак мінчанка Лізавета Георгіеўна Віткоўская ўразіла сваёй артыстычнасцю, лёгкасцю, выразнасцю. У мінулым яна інжынер-будаўнік, цяпер на пенсіі, але выглядае вельмі маладой, бадзёрай.

Сярод гасцей свята вылучаўся дванаццацігадовы гарманіст Дзмітрый Асташук з Брэсцкай вобласці. Пра яго гавораць, што хлопчык самавук, і ўсё грае па слыху, схоплівае злёту. Сёлета ён стаў лаўрэатам конкурсу "Галасы Палесся". Нікога не пакінулі абыякавымі выступленні гасцей з Чэрыкава, сакавіты гумар самадзейных артыстаў з Гродна.

А прыпевачніца з калгаса імя Суворава Стаўбцоўскага раёна Альфрэда Восіпаўна Явід з вялікім поспехам дэбютавала на свяце, уразіўшы артыстызмам і прыродным гумарам. "З маленства спяваю, — падзялілася яна. — Здаецца, спявала бы і дзень і ноч. Валодаю акардэонам. На гэты раз вельмі хвалявалася, калі выступала, але з прыемнасцю адчула падтрымку ўдзячных слухачоў. Мне здаецца, што калі спяваю, дык мяне і старасць не бярэ. Дзякую, што запрасілі мяне на свята".

Тэатралізаванае прадстаўленне "Мінскага гармоніка" адбылося на плошчы ля Палаца культуры аўтазаводцаў, а ў самой яго зале выступалі ўдзельнікі свята. Яно ўдалося. Таму наступны, чарговы "Гармонік" будзе ўжо не мінскі і нават не рэспубліканскі, а — міжнародны.

**Вера КРОЗ,**
**наш спецкар.**

# ЗНОЎ ПРА "ТУТЭЙШЫХ"

## ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ ХРОНІКА ЗАБАРОНЫ КУПАЛАВАЙ П'ЕСЫ

АБ ДРАМЕ класіка беларускай літаратуры Янкі Купалы "Тутэйшыя" напісана шмат. Пераважна з пункту гледжання яе мастацкіх і ідэйных вартасцей, месца, якое яна займае ў творчасці песняра. Менш даследавана гісторыя ўвасаблення "Тутэйшых" на тэатральнай сцэне, хоць і вядома, што сцэнічны лёс п'есы досыць няпросты. Драма неўзабаве пасля яе пастаноўкі ў Першым Беларускім драматычным тэатры ў 1926 годзе была знята з рэпертуару. Знята па палітычных матывах тагачаснай цэнзурай.

Дакументы Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь (фонды былога партыйнага архіва) дазваляюць скласці дакладную карціну падзей, звязаных з гэтай гісторыяй.

Трэба адзначыць, што п'еса была знята Галоўлітам раптоўна, без усялякіх папярэдніх узгадненняў з Наркамасветы, чыёй структурай Галоўліт з'яўляўся. Адбылося гэта ў час работы Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі, што праходзіла ў Мінску 14—19 лістапада 1926 г. з удзелам прадстаўнікоў замежных беларускіх нацыянальных навуковых і культурных цэнтраў. "Культурная праграма", складзеная для замежных гасцей, прадугледжвала наведванне навуковых, навучальных, асветных і іншых устаноў беларускай сталіцы, у тым ліку і Беларускага дзяржаўнага тэатра. Аднак ужо ў першы дзень работы канферэнцыі пільныя палітычныя кантралёры ўгледзелі ў ёй шмат недапушчальных, з пункту погляду афіцыйнай ідэалогіі, фактаў, якія ў друку былі кваліфікаваныя як "нацыянальныя захапленні і нацыянал-дэмакратычныя імкненні". Было нават "заўважана", што ў афармленні залы пасяджэнняў не аказалася партрэта Леніна, чырвоных сцягоў, пераважалі нацыянальныя колеры; агалошаная на канферэнцыі прапанова некаторых яе ўдзельнікаў аб неабходнасці разгледзець пытанне пераходу ў беларускім правапісе з кірыліцы на лацінку была расцэнена ўладамі, як "арыентацыя на буржуазны Захад у процівагу пралетарскай Маскве"; быў падвергнуты крытыцы і нарком асветы А.Баліцкі, які "ў прывітальным слове не паказаў ні ролі партыі ў культурным будаўніцтве, ні класавай сутнасці асветы ў савецкай краіне".

На закрытым пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б ад 26 лістапада 1926 года абмеркаванне гэтых "праколаў" набыло настолькі востры характар, што старшыня Інбелкульта і партыйнай пяцёркі па арганізацыі канферэнцыі У.Ігнатоўскі вымушаны быў адмовіцца ад далейшай работы на канферэнцыі.

У такіх абставінах і ўзнікла пытанне аб п'есе Я.Купалы "Тутэйшыя", у якой былі ўбачаны "мастацкі афармленыя элементы нацыянал-дэмакратызму". Тыя самыя "элементы", аб небяспецы якіх першы сакратар ЦК А.Крыніцкі гаварыў яшчэ ў верасні 1925 г. на сходзе членаў бюро ячэек Мінскай гарадской партыйнай арганізацыі. Той самы нацыянал-дэмакратызм, пра які ў пастанове ЦК КП(б)Б "Аб рабоце сярод інтэлігенцыі" (сакавік 1926 г.) было сказана, што ён у Савецкай Беларусі "знаходзіць свой сацыяльны базіс у настроях буржуазнай верхавіны вёскі". Да таго ж у гэты час кіраўніцтва ЦК "займалася" пытаннем і аб літаратурным дадатку да газеты "Беларуская вёска" — часопісе "Чырвоны сейбіт", якія рэдагаваў Р.Шукевіч-Траццякоў. Загадчык арганізацыйнага аддзела ЦК В.Валынскі ў лісце членам бюро ЦК КП(б)Б ад 22 снежня 1926 г. пісаў, што рэдактар ператварыў дадатак у рупар узвышэнцаў, афарбаваў яго ў дробнабуржуазныя нацыяналістычныя колеры і супрацьпаставіў яго пралетарскім маладнякоўцам.

Гэтыя тры пытанні — вынікі нагаданай вышэй акадэмічнай канферэнцыі, п'еса Я.Купалы "Тутэйшыя" і "нацыяналістычныя памылкі" "Чырвонага сейбіта" на агульным фоне літаратурнай палітыкі — разглядаліся разам на адных і тых жа закрытых пасяджэннях Бюро ЦК на працягу лістапада—снежня 1926 г.

Праект пастановы па п'есе Купалы для бюро рыхтаваў аддзел друку, які ў той час узначальваў А.Адамовіч. Запісы выступленняў на пасяджэнні аддзела і яго калегіі ў архіве не захаваліся. Тыя ж сведчанні, што дайшлі да нас, гавораць аб сутыкненні розных поглядаў і пазіцый, абвінавачваннях тых, хто прагледзеў "вылазку нацыянал-дэмакрата".

**З ліста рэдактара газеты "Беларуская вёска" Р.Шукевіча-Траццякова ў бюро ЦК КП(б)Б тав.Крыніцкаму. Не пазней 17 снежня 1926 г.**

"За апошні месяц мне ўдалося трапіць у шэрагі ледзь не контррэвалюцыянераў. Ва ўсякім выпадку, на адну дошку з нацыянал-дэмакратамі некаторыя таварышы мяне добрасумленна пасадзілі...

Мая контррэвалюцыйнасць выплыла ў сувязі з пытаннем аб "Тутэйшых" Янкі Купалы. Тут яўная блытаніна.

На калегіі Аддзела друку, дзе гэтае пытанне абмяркоўвалася, "сапраўднай контррэвалюцыяй" я назваў не забарону "Тутэйшых", як такую, а ўсю абстаноўку, што папярэднічала пастаноўцы п'есы.

На самай справе: Галоўліт выдатна ведае, што рэжысёр п'есы — сапраўды рускі чалавек; тав.Арэшнікаў (загадчык Галоўліта. — **Р.П.**) не шкадаваў фарбаў для абмалёўкі гэтага тыпу. Галоўліт робіць на галоўнай рэпетыцыі найістотныя ўказанні аб характары пастаноўкі. Рэжысёр дае абяцанне ўсё выправіць, але не выпраўляе, пра што і паведамляе ў Галоўліт да пастаноўкі. Вось тут-та Галоўліт і павінен быў выкарыстаць сваё права не дазволіць пастаноўку п'есы... Аднак чамусьці дапускае непатрэбную мяккацеласць. П'еса ідзе і ў самы разгар Акадэмічнай канферэнцыі ўсё ж здымаецца. Я зусім не адстойваў неабходнасці захавання п'есы на сцэне: пастаноўкі я не бачыў.

Не даваў я ў свой час дазволу і на друкаванне п'есы (Шукевіч-Траццякоў раней узначальваў Галоўліт. — **Р.П.**). У тыя часы Галоўлітам кіраваў АПА ЦК КП(б)Б і амаль уся мясцовая белетрыстыка праходзіла праз яго. На становішчы парторгана знаходзіўся і часопіс "Полымя", дзе "Тутэйшыя" ўбачылі свет. Значыць, часопіс заўсёды прагледжваў хто-небудзь па даручэнні АПА, а Галоўліт фактычна рэгістраваў выхад часопісаў, як ён гэта цяпер робіць з партгазетамі".

Аб адсутнасці адзінага погляду на п'есу і розных адносінах да яе раптоўнай забароны сведчыць і сам А.Крыніцкі. У палітычнай справаздачы ЦК X з'езду КП(б)Б у гэтай сувязі гаворыцца: "Гэтую п'есу лічылі магчымым прапусціць і кіраўнікі тэатра, і палітасветы, і Наркампроса, і беспартыйныя таварышы, якіх нельга западозрыць у варожым стаўленні да ўлады і камуністычнай партыі, і камуністы". І далей: "калі ўсе гэтыя таварышы, уключаючы і аўтара п'есы, убачылі, што яна жывіць у радзе момантаў элементы, варожыя савецкай уладзе і лініі партыі, дык **самі** прызналі неабходным у такім выглядзе п'есу зняць" (X з'езд КП(б)Б. 3—10 студзеня 1927 г. Стэнаграфічная справаздача. — Мінск, 1927. С.43).

На пасяджэнні бюро ЦК, якое праходзіла 3 снежня 1926 г., прыняць пастанову, як гаворыцца, з першага разу, не ўдалося. Праект, прапанаваны аддзелам друку, быў накіраваны на дапрацоўку. Прычына гэтага была не толькі ў тым, што на бюро выказваліся розныя думкі. Пытанне пра п'есу, як і пытанне пра "Чырвоны сейбіт", "увязалі" са становішчам на літаратурным фронце наогул і літаратурнай палітыкай партыі ў сувязі з "ажыўленнем дробнабуржуазнага нацыяналізму ва ўмовах "разгорнутага НЭПу". Адклалі і прыняцце рэзалюцыі па выніках Акадэмічнай канферэнцыі.

З нагоды канферэнцыі першаму сакратару давялося тэрмінова пісаць тлумачэнні ў ЦК ВКП(б). Справа ў тым, што, прымаючы рашэнне аб яе правядзенні ў Мінску, бюро ЦК КП(б)Б палічыла дастатковым узгадненне яго толькі з НКЗС СССР і ДПУ. ЦК ВКП(б) аказаўся абмінутым, і менавіта ў яго аддзелы пацякла з рэспублікі інфармацыя аб "нацыяналістычных праколах" і на канферэнцыі, і ў друку, і ў тэатральных пастаноўках.

У вялікім лісце ў ЦК ВКП(б) А.Крыніцкі пісаў, што ЦК КП(б)Б бачыць небяспеку беларускага шавінізму і нацыянал-дэмакратызму і вядзе з імі барацьбу. У якасці доказу А.Крыніцкі прывёў факт забароны п'есы Янкі Купалы "Тутэйшыя".

Яшчэ адзін дакумент:

**З ліста ЦК КП(б)Б у ЦК ВКП(б) "Аб выніках і вывадах Акадэмічнай канферэнцыі па беларускаму правапісу і азбуцы" ад 20 снежня 1926 г., падпісанага першым сакратаром ЦК А.І.Крыніцкім.**

"Бюро ЦК КПБ 3 снежня 26 г. таксама грунтоўна абмяркоўвае пытанні, звязаныя са зняццем з рэпертуара Беларускага Дзяржаўнага Тэатра п'есы, напісанай Янкам Купалам у 1921—22 гг. — "Тутэйшыя", якая ўтрымлівае элементы нацыянал-дэмакратызму. (Рэзалюцыя — гл. дадатак N 6).

У сувязі з абмеркаваннем пытання аб п'есе "Тутэйшыя" ўздымаецца і агульнае пытанне аб літаратуры ў БССР. У прыватнасці, падвяргаецца рэзкай крытыцы літаратурны дадатак да сялянскай газеты ЦК КПБ "Беларуская вёска" — "Красный сеятель", у якім затушавана і заблытана партыйная лінія ў пытаннях літаратуры. У "Звяздзе" за 5 снежня змяшчаецца прагледжаны некалькімі членамі бюро ЦК артыкул, які крытыкуе памылкі "Красного сеятеля" і адлюстроўвае лінію ЦК КПБ у агульных пытаннях беларускай літаратуры.

Гэтае ж бюро ЦК 3 снежня "дае наганяй" літаратурнай камісіі ЦК КПБ за пратэрміноўку ў падрыхтоўцы пытання "Аб палітыцы КПБ у адносінах мастацкай літаратуры" і прызначае (замест 15 кастрычніка) тэрмін заслухоўвання ўсяго даклада пра беларускую літаратуру на бюро ЦК 24 снежня 1926 г.".

Дапрацаваная рэзалюцыя па "Тутэйшых" была прынята 17 снежня 1926 г. У гэты ж дзень зацвердзілі рашэнні па Акадэмічнай канферэнцыі* і разгледзелі другі варыянт праекта пастановы "Аб літаратурнай палітыцы КП(б)Б". Тэкст рэзалюцыі па п'есе Купалы быў такім:

**З пратакола закрытага пасяджэння бюро ЦК КП(б)Б ад 17 снежня 1926 года.**

Слухалі: 6. Канчатковая рэдакцыя рэзалюцыі па пытанні аб п'есе "Тутэйшыя".

Пастанавілі: 1. Прызнаць, што пастаноўкай п'есы "Тутэйшыя", якая заключае ў сабе элементы нацыянал-дэмакратызму, Наркамасветы, ГПП, Галоўліт і Тэатр дапусцілі палітычную памылку.

2. Зняццё п'есы Калегіяй Галоўліта лічыць палітычна правільным, адначасова адзначыць, што пры арганізацыйным правядзенні ў жыццё была зроблена памылка ў сэнсе не ўзгодненасці пытання аб зняцці п'есы з адпаведнымі органамі (Наркампрос і інш.).

3. Лічыць магчымым пастаноўку п'есы на сцэне пасля яе радыкальнай перапрацоўкі аўтарам і пасля таго, як перапрацаваная п'еса будзе прынята да пастаноўкі адпаведнымі органамі.

4. Прызнаць, што палітычнае кіраўніцтва Галоўлітам непасрэдна ажыццяўляецца Аддзелам друку ЦК КПБ, пры гэтым Наркампрос БССР ажыццяўляе як практычнае кіраўніцтва Галоўлітам па правядзенні ў жыццё дырэктыў Аддзела друку ЦК, так і ўвязку работы Галоўліта з усёй работай Наркампроса (у прыватнасці, праз уваходжанне заг. Галоўліта ў калегію Наркампроса).

На некаторы час пытанне аб "Тутэйшых" з парадку дня было знята. Аднак у сувязі з разгортваннем барацьбы супраць нацыянал-дэмакратызму і падрыхтоўкай палітычных працэсаў пачатку 30-х гадоў, у якіх Купалу даводзілася роля "ідэолага" нацыяналістаў, пра п'есу ўспомнілі зноў. Так, у дакладзе Галоўліта на пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б 30 сакавіка 1928 г. яна вылучана ў асобны раздзел.

**З даклада Галоўліта (т.Якшэвіч) на пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б 30 сакавіка 1928 г.**

"ТУТЭЙШЫЯ"

"Тутэйшыя" — сатырыстычныя сцэнкі з менскага жыцця ў перыяд 1918—20 гг. На фоне цэлага шэрага адмоўных тыпаў (быўш.паліцэйскі, быўш.чыноўнік, поп, дама і г.д.) адзіны станоўчы тып, рэзанёр Янка Здольнік, беларускі народны настаўнік. Гэты герой з моцна выражанай народніцкай ахварбоўкай не пазбаўлен моцнага нацыяналістычнага духу. Палітычныя перакананні яго крайне падазрыцельны. З аднолькавай абывацельскай пасіўнасцю, з падкрэсленым раўнадушшам сустракае ён палітычныя змены, змены ўладаў. Немцы, палякі, бальшавікі — для яго аднолькавы. Для яго "гэта ўсё роўна".

Далёкі ад палітычнай барацьбы, грамадскага жыцця, ён шукае свае ідэалы ў мінулым.

У ўмовах Савецкае ўлады ён усё яшчэ не ведае, з кім ісці: "Мы яшчэ хістаемся то ўправа, то ўлева. Яшчэ ясна азначанай мэты не можам сябе ўявіць" (стар.51). Ён чакае таго моманту, калі ён і яму падобныя стануць "самі сабе гаспадарамі, таму што іначай (пры савецкай уладзе) ніякага складу ні ладу ў нас не будзе".

Па першай дзеі ўсё ідзе як быццам добра. Але ўжо ў другой дзеі адчуваецца нейкая недагаворанасць. У маніфестацыі, дзе сустракаюць Чырвоную Армію, якая займае Менск, мы бачым, што яе сустракае вялікарускі купец, анекдатычны яўрэй, жулік, які ўкраў грошы, і некалькі яшчэ падазроных асоб.

Складаецца ўражанне, што старонікамі Савецкае ўлады ў Менску з'яўляюцца толькі гэтыя тыпы. Асабліва цяжкае ўражанне застаецца ад 3 дзеі. Нікчэмнага, абадранага і запалоханага чырвонаармейца бяруць у палон пані, поп і чыноўнік пры маўклівым спачуванні героя п'есы Здольніка. З баязліваю пакорнасцю чырвонаармеец аддае сваю зброю і чакае, што будзе далей. Герой п'есы ў гэтай частцы стаіць засунуўшы рукі ў кішэні і іранічна смяецца.

Уся п'еса перапоўнена як замаскіраваных, так і яўных выпадаў супроць Савецкае ўлады."

Адносна зняцця гэтае п'есы з рэпертуару БДТ-1 было шмат спрэчак. Аб гэтай п'есе стаяла пытанне на бюро ЦК КПБ, дзе прызналі, што рашэнне Галоўліту было правільнае.

Праз год пытанне аб сацыяльнай накіраванасці п'есы ўзняў у дакладзе ў Камуністычнай акадэміі ў Маскве загадчык культпропа ЦК КП(б)Б А.Сянкевіч. Адказваючы крытыку В.Чаржынскаму, які назваў літаратурныя выступленні Купалы "гарманаючымі з эпохай", а "Тутэйшых" — па драматычнай пабудове "веяннем мальераўскага генія на глебе беларускай літаратуры", Сянкевіч сцвярджаў:

"Паглядзім, якую сучаснасць бічуе сваім смехам Я.Купала ў "Тутэйшых". "Тутэйшыя" даюць малюнак окупацыі Беларусі, прычым Купала падводзіць і час побыту бальшавікоў на Беларусі пад паняцце окупацыі. Значыць, у драме "Тутэйшыя" ён бічуе нашу савецкую рэчаіснасць, ён паднімае на шчыт свайго смеху бальшавікоў, якіх ён у гэтым творы ставіць на адну дошку з польскімі окупантамі".

Пасля такога вердыкту адукаванага літаратара можна зразумець малаадукаванага следчага НКУС, які ў "Даведцы" на Янку Купалу для так званай "палкі Бермана" ў жніўні 1937 г. сярод абвінавачванняў у нацфашызме адзначыў: "Написал для І-го Белгостеатра пьесу "Тутэйшыя" контрреволюционного содержания, в результате пьеса была запрещена и изъята".

** Паметка да рэзалюцыі аб выніках Акадэмічнай канферэнцыі, прынятай бюро ЦК КП(б)Б 17 снежня 1926 г.: "Послана с письмом в ЦК ВКП)б) т.Сталину, Косиору и друг. тт. 21/XII N 107. (л.187).*

**Р.ПЛАТОНАЎ,**
**галоўны навуковы супрацоўнік БелНДЦ дакументазнаўства, археаграфіі і архіўнай справы**

# КАРОТКІЯ АПАВЯДАННІ

## ШКОЛЬНЫ ЗВАНОК ЗВІНІЦЬ 150 ГАДОЎ



**Упершыню залівісты школьны званок празвінеў у калідорах Вяляціцкай сярэдняй школы 150 гадоў назад. Праўда, і школа тады называлася: "Чатырохкласная народнае вучылішча вёскі Вяляцічы", і калідоры былі іншымі, і вучняў было тут не 380, як сёння, а толькі 15 чалавек. І вучыліся ў народным класным вучылішчы дзеці самых бедных сялян Барысаўскага, Крупскага і Бярэзінскага паветаў.**



**...Такой колькасці гасцей, што прыехалі на 150-гадовы юбілей роднай школы з усіх куткоў Беларусі, не помняць вуліцы вялікага беларускага сяла Вяляцічы. Бо за ўсе гэтыя гады ў сярэдняй школе было 52 выпускі. Выйшлі са сцен гэтай сельскай школы дактары навук і прафесары, акадэмікі, стваральнікі і выпрабавальнікі ракет, медыкі і інжынеры, журналісты і педагогі, аграномы і эканамісты. Усім ім дала веды, а, значыць, і пуцёўку ў жыццё сціплая сельская школа і строгія яе выкладчыкі. І ў дзень юбілею роднай школы былыя яе выхаванцы самых розных гадоў вельмі знакамітыя і радавыя бухгалтары або калгасныя механізатары — усе прыйшлі сказаць "дзякуй, школа", што вывела іх у людзі, успомніць добрым словам сваіх настаўнікаў і ўспомніць незабыўныя школьныя гады і сяброў шчаслівага юнацтва свайго.**



*На здымках: На гэтым месцы 150 гадоў назад знаходзілася чатырохкласнае народнае вучылішча вёскі Вяляцічы Барысаўскага раёна.*

*Падчас урачыстасцей выпуснікоў школы вітаюць самыя юныя вучаніцы.*

*На свята школы ідуць былыя вучні школы.*

*Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БЕЛТА*

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

выклікалі ў людзей разгубленасць, калі гэта наносішся вёдрамі вады з сажалкі; цяпер нават блізкае полымя не бянтэжыла; затое шкада было птушак ды зайцоў, якія ў тым жа быльніку ці ў толькі што выгнаным бярэзніку выводзілі патомства. Пажар нікога не шкадаваў. Нездарма ж у радыяцыйных лясах цяжка пачуць у нашы дні птушыную гаману, дарослы заяц таксама рэдка калі выскачыць на дарогу наперад машыны, нават калі едзеш з запаленымі фарамі.

Мяне да душы ўразіла ранішняя цішыня з яе звонам паветра. І я папрасіў шафёра спыніцца недзе паміж Касцюковіцкім і Краснапольскім раёнамі. Навакол ляжаў аблог, зеўралі праламанымі вокнамі пакінутыя сялянскія хаты, калгасныя пабудовы. На жывёлагадоўчых фермах ні рыку, ні ранняга варання. Не дай бог бачыць падобнае!.. З такой дарогі часцей прыязджаеш хворы!.. І таму дзівішся, як гэта некаторыя спрытнюгі рашаюцца вывезці з пакінутых паселішчаў усё, што прыдатна недзе для продажу ці нават для ўласнага будаўніцтва!..

Зразумела, што без шчымлівага пачуцця тут не абышлося. Я сказаў, але быццам самахоць:

— Надоўга заснула наша зямля!..

— Можа, навекі, — азваўся з кабіны шафёр, той чалавек, што прапанаваў учора ехаць на яго машыне ў Мінск. — Але не хвалюйся, неўзабаве зноў загудуць на гэтых палетках трактары, закуржавее пыл. Сёй-той са старшыняў калгасаў употай і так засяваў на забруджаных участках збожжавыя, а цяпер тым больш — прэзідэнт учора дазволіў, ну, не зусім, каб дазвол даў, аднак падахвоціў, моў, нічога не стане з чалавекам, калі раптам лішнія мілірэнтгены з'есці.

— Так і сказаў?

— Ну, не зусім даслоўна, але сэнс быў такі.

— І ніхто не запярэчыў?

— Нашы, мясцовыя, не. Яны чагосьці падобнага толькі чакалі, каб атрымаць вышэйшыя валавыя ўраджаі, вядома, не паказваючы ў справаздачах засеяныя плошчы на забруджаных землях.Зрэшты, ты сам хутка разгадаеш гэтую механіку, калі канчаткова вырашыш выбірацца. А вось ці набярэшся адвагі, каб выступіць супроць падобнай практыкі?

— А што людзі?

— Здаецца, нават з ахвотаю ездзяць з новых пасёлкаў на аўтобусах у свае ранейшыя вёскі. Усё-ткі работа, дарма што небяспечная. Але ўжо пра небяспеку ўсё роўна як і не думаюць. Моў, на наш век жыцця нашага хопіць.

— Дажываць па-ўсякаму можна. Але скарачаць жыццё людзям ці варта? Я ўсё думаю, хто гэта нацэліў, каб трапіць чарнобыльскай зоркай прама ў сэрца трох вялікіх славянскіх народаў? Няйначай, яны правініліся перад вышэйшай сілай?

— А тут думай, як хочаш.

— Вось я і думаю, Нават выбірацца падаўся ў гэты абяздолены край.

— Але ты не дужа распаўсюджвайся з гэтым, бо людзі апошні час чамусьці не любяць, калі хто лішні раз нагадвае ім пра радыяцыю. Гэта спярша быў ажыятаж, бо існавалі нейкія льготы, грошы ў дадатак да ўсяго давалі. Грабавымі іх называлі. Цяпер рэдка іх плацяць.

Ад "грабавых" у размове з прыяцелем перайшлі да перадвыбарчай абстаноўкі ў мясцовай акрузе. Ні яму, ні мне не падабаліся адносіны ў гэтым сэнсе да Ганаровага грамадзяніна. Яшчэ не пачалася агітацыйная кампанія, а ўжо відаць было, што касцюковіцкія і хоцімскія камуністы паспрабуюць узяць рэванш над дэмакратамі і рознымі іншымі прэтэндэнтамі. Маўляў, мы самі з вусамі, і ў нас хопіць спецыялістаў ва ўсе парламенцкія камісіі. Ужо былі пушчаны чуткі ў раёне, што Чыгрынаў дрэнна выказваецца пра камуністаў, а заключэнне блока з аграпартыяй і іншымі левымі рэч зусім неабавязковая. Тым больш, што другія партыі таксама заюшыліся к гэтаму часу. Чамусьці ўсім мроілася лёгкая перамога пасля брыдкага заканчэння XII сесіі Вярхоўнага Савета. Ну а кандыдатаў у адной узятай акрузе лічыць — не пералічыць. Відаць, лёгкім здалося па тэлевізары сядзенне на дэпутацкіх лаўках, балазе, што сёетое і ўрваць яшчэ можна. Некаторым жа з папярэдняга складу парламента і ў сне не снілася, што можна неяк перабрацца на жыццё ў сталіцу, а тут.. пажывеш трохі ў гасцінічным нумары, нарэшце і кватэру ўласную атрымаеш у прэстыжным доме. Раней, пра бальшавіцкіх дэпутатаў, усё можна было гаварыць, робячы розныя здагадкі: маўляў, яны і паслухмяныя да смешнага, і кнопкі націскаюць па першым жа сігнале, і смачна ядуць у часе сесіі, і лекі недаступныя іншым маюць магчымасць набыць, але ў суцэльным ірвацтве іх нельга было абвінаваціць.

●

У Мінску трохі набралася, усё роўна як у запас, часу. Горад якраз рыхтаваўся да пяцідзесяцігоддзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Панаехала гасцей. Нягледзячы на цяжкасці з перамяшчэннем з аднае назалежнай краіны (з былой саюзнай рэспублікі) у другую, былыя ўдзельнікі баёў на Беларусі, найбольш партызаны, выступалі ў калектывах, на радыё, на тэлебачанні. У цэлым сёлета народ успрымаў іх душэўна, але ўжо выразней, чым раней, выяўлялася нялюбасць да былых вызваліцеляў. Сёй-той выступаў з артыкуламі, дзе абгрунтоўваў свой погляд на мінулую вайну, на Перамогу і г.д. Гучней пачалі раздавацца галасы калабарантаў (чамусьці не хочацца называць сёння былых паліцаяў і службоўцаў розных устаноў пры немцах здраднікамі). Мы ж і цяпер не адважваемся сказаць, што паліцаяў у нас налічвалася на акупаванай тэрыторыі болей, чым падпольшчыкаў і партызан, якія не ўсе падаліся ў эміграцыю, затое мала хто памяняў свае адносіны да ўсяго, з чым змагаліся тады. А дзеці, якія хоць і атрымалі ад савецкай улады магчымасць жыць, вучыцца і працаваць (вось ужо праўда, што сын за бацьку не адказвае!), таксама да разбурэння вялікай краіны цікавалі з-пад калоды. А далей — розныя родзічы, унукі... Хоць у адносінах да ўсіх падобныя абвінавачванні не толькі несправядлівыя, але і няправільныя. Узяўшыся разважаць па гэтай праблеме, я хацеў сказаць найперш, удзел калабарантаў на баку немцаў прымушаў дрыжаць пасля шмат каго, дарма што ў паперах дзяржаўнай бяспекі нішто не было бясследна страчана. Аднак цяпер, пры амаль бязмежнай свабодзе, асабліва маральнай, калі калабаранту ўжо ніхто не забараняў называць сябе патрыётам, былыя паліцэйскія выдалі сваю святую нянавісць. Зразумела, што ў такіх умовах святкаваць вялікія ўгодкі Перамогі было няпроста.І калі б не ранейшае нахабства пераможцаў, якія паўсюды дамінавалі, яшчэ невядома, колькі бел-чырвона-белых сцягоў з'явілася б у руках прыхільнікаў народнага фронту. (А іх у нас многа, гэтых бел-чырвона-белых палотнішчаў, пазней я добра пераканаўся, калі ўжо ўлетку адзначалі 500-годдзе Мірскага замка).

Мяне таксама клікалі на розныя сустрэчы. Аднак пайшоў я на адну канферэнцыю, у якой бралі ўдзел вядомыя савецкія генералы і касманаўты. Не ведаю, хваліць арганізатараў канферэнцыі альбо не, але на ёй зноў можна было пачуць нязменную перакананасць знакамітых людзей у правільнасці сацыяльных ідэй, якія наўрад ці патрабуюць нават штукатуркі.

Рэдактар "Советской Белоруссии", пачуўшы мае скаргі пра выбары ў Касцюковіцкай акрузе, прапанаваў зайсці ў рэдакцыю, расказаць гэта ж самае карэспандэнту. Што я і зрабіў у той жа дзень. Інтэрв'ю выйшла ў газеце, калі я ўжо знаходзіўся ў акрузе. І якое было здзіўленне маё ад таго, што амаль ніхто не чытаў яго. Пасля гэтага з'явілася ўражанне, што зусім нічога не адбылося, калі б і прачыталі газету.

Начальства, у тым ліку і старшыня выбарчай акруговай камісіі, пазбягалі мяне. Далей пачалося і зусім неверагоднае. Куды не сунешся выступаць, паўсюды адмаўляюць склікаць выбаршчыкаў. Галоўны доказ — у рабочы час нельга непакоіць людзей, ну а перад работай і пасля — калі ласка. Толькі хто гэта прыйдзе перад работай на гадзіну раней, нават на паўгадзіны, а пасля работы трэба спяшацца на дачы, на садовыя ўчасткі, маўляў, адзін вясновы дзень корміць год. Ды і памяшканне забаранілі прадастаўляць. "Хто?" — пытаюцца мае даверапыя асобы. "Начальства", — адказваюць кіраўнікі заводаў, фабрык, а то проста прафсаюзныя работнікі, адказныя за выбары. Так выйшла з маім выступленнем, напрыклад, на цэмзаводзе. Дырэктар паабяцаў даць магчымасць выступіць перад рабочымі, а прафсаюзная цётачка стала супроць — маўляў, званілі з акруговай камісіі, параілі строга прытрымлівацца ўказа прэзідэнта.

Недзе на трэці дзень надзея выбрацца ў дэпутаты ў мяне прапала. І тым не менш рашыўся выступіць у прадуктовым магазіне, проста ў чарзе. Але дастаткова было назвацца, як выйшаў казус. Раптам падыходзіць нейкая нехлямяжая жанчына і просіць: "Тут прывезлі для ветэранаў таннай гарэлкі, вазьміце мне бутэльку, а я папрацую ў інтэрнаце за вас". Давялося купіць бедалазе бутэльку, а самому пакінуць ад сораму магазін.

Тым часам на перыферыі (аказваецца, свая перыферыя паўсюды існуе таксама) жылі мае выбаршчыкі. Таму найперш мы рашылі з даверанымі асобамі праскочыць па тых вёсках, дзе была зафіксавана павышаная радыяцыя і дзе заставалася, амаль скрываючыся, яшчэ нямала народу. Але перад тым раным-рана наведалі новыя пасёлкі, куды перамясцілі Саматэвічы, Зялёнкавічы, Вусаўку, Вялікі Бор, Зарэчча, Вараноўку, Кавычачы, Мокрае... У малой Крапіўне жыло цяпер насельніцтва з майго былога сельскага Савета. Насустрач выйшаў толькі адзін чалавек, сказаў з усмешкаю — яшчэ ўсе спяць. У Ліпаўцы, дзе патрохі ўжо абжываліся саматэвіцкія мужыкі, старшыня калгаса, які чакаў аўтобуса, каб накіраваць калгаснікаў на работу на былыя калгасныя землі, замахаў на нас рукамі: "Якія выступленні, якая агітацыя? Ды з мяне галаву сарвуць, калі збяру для вас аўдыторыю!" — "То, можа, дазволіш пагаварыць з людзьмі ў аўтобусе, пакуль збіраюцца калгаснікі?" — "Дзіўныя вы людзі, у тым ліку і ваш кандыдат: з раёна ўвогуле паступіла каманда, каб не пускаць вас і блізка да калгаснікаў".

Тое ж, ці амаль тое, адбылося ў Бароньках, дарма што старшыня сельсавета ўмеў загаварваць зубы. Праўда, у сельсавеце былі два мужыкі — адзін з Гаўрыленкі, другі, здаецца, са Смольreceived каўскай Буды. Гэтыя з ахвотай узялі па лістоўцы, паабяцаўшы, што павесяць на магазіне. Але калі мы прыехалі ў Гаўрыленку і не ўбачылі наклеенай лістоўкі, прадаўшчыца растлумачыла, акурат па самым вялікім знаёмстве: у гарганддлі забаранілі нам мець лістоўкі кандыдатаў. "Тады чаму лістоўкі двух іншых кандыдатаў павешаны — суддзі і дырэктара сельгасхіміі?" — "Дык гэта раней зроблена, — адказала прадаўшчыца. — А на вас і на народафронтаўца выйшла забарона".

За Гаўрыленкай, ужо амаль праз расійскую граніцу, дарога паварочвала на Машавую, тады ішла па радыяцыі і паміж Вараноўкай і Кавычачамі выводзіла на засыпаную гравіем грэблю, за якой відаць былі на ўзгорку цагляныя дамы майго Вялікага Бору. Жахлівае гэта ўражанне, глядзець на разбураныя будынкі, у якіх зусім ня-

даўна знаходзіліся людзі!.. Ацалела пакуль былая саўгасная канто ра ды яшчэ не страціў выгляду машынны двор. Па-ранейшаму тут ляскала жалеза аб жалеза, гурчалі, а потым сціхалі маторы. З кузні чуліся ўдары вялікага молата.

Зайшоў я на машынны двор. Знаёмы трактарыст, убачыўшы, пажартаваў: "Саўсім не тое, што было, Гаўрылавіч. Помніш, раней? Ты на двор сюды, а мы за цябе ды ў магазін. Гарэлку мужыкам скрынямі ставіў, балазе, у кукурузе можна было схавацца. Цяпер вось і магазіна тут няма, і ўвогуле нічога няма. Нават кукурузы больш не сеем, дарма што ферма для кароў засталася. — Падумаў, тады сказаў ужо зусім сур'ёзна. — Значыць, да нас у дэпутаты надумаў? Што ж, мы рады. Але навошта ты матляешся па гэтых радыяцыйных дарогах? Ну, няхай мы, дык тут не свая воля. Прымушаюць. А табе якая пільнасць? Выбары? Дык прагаласуем мы за цябе і так. Не ведаю, як ва ўсім раёне, а мы за цябе!"

Гэтак жа запэўнівалі мяне і на машынным двары ў Саматэвічах, у Відстмах...

Але ж як гэта наведацца ў родную вёску ды не пастаяць на сваім дворышчы? Паехалі туды. Хата наша стаяла на другім канцы вёскі, пад лесам, і там жа была школа, куды мы бегалі яшчэ па праталінах босыя. Дворышча шчыльна зарасло палыном і быльнікам, а яблыні, якія садзілі перад вайной, пачалі дзічэць, першай адзнакай чаго з'яўляецца здрабненне іх. Я помню ўсе пабудовы нашы на гэтым дворышчы — спярша нейкая часовая хацінка, падобная на лазню, пасля добрая, амаль лепшая на ўсю вёску, хата-пяцісценка; затым, ужо за пажарам у вайну, зямлянка, ну а падканец, бадай, самыя апошнія з вялікаборцаў мы зноў узбіліся на хату. І вось ад усяго застаўся толькі ўспамін!..

Некалі крокаў за дваццаць ад ніжняга нашага гарода бруяла з-пад зямлі мноствам ключоў дзедава крыніца, дакладней, студня, з якой вялікабораўцы з ахвотаю бралі ваду. Вада была смачная, ёдзістая, ад яе ажно заходзіліся зубы. Недзе ўжо думалася, што і дзедава студня збуцвела, ператварылася ў смярдзючую лужыну. Але не. Першыя вянкі на зрубе сапраўды струхлелі, аднак усе астатнія, тыя, што патаналі ў вадзе, заставаліся яшчэ моцныя, за іх не пабраўся нават мох. Як і ў дзяцінстве маім, вада ў крыніцы праглядвалася да самага дна, быццам і не ляжала ўнізе цэлая тоўшча. Радыяцыя атруціла не толькі зямлю, аднак і ваду, асабліва такую вось адкрытую, як у гэтым калодзежы. Але чым даўжэй стаяў я над ім, тым мацней хацелася напіцца яе ці хоць бы ўзяць з сабой у дарогу.

Людзей у той дзень не багата было ў Вялікім Бары. Сустрэчныя казалі, што дасяваюць ярыну за чыгункай, вакол Малой Крапіўні. Ну і пустыя ж землі дасталіся маім землякам! Як помніцца мне, там заўсёды буялі адны так званыя дзяды!..

Але нядаўнія парады прэзідэнта сапраўды падахвоцілі мясцовае начальства — на забруджанах радыяцыяй палетках абапал дарог поўным ходам ішла сяўба. Найбольш шчыравалі трактары з сеялкамі, але сям-там траплялі і людзі. Балюча было глядзець на гэта. Хіба ж дапушчальна свядомая шкода? Толькі з кім не стаў гаварыць, людзі нейк адразу натапырваліся, робячы выгляд, маўляў, што да ўсяго да гэтага табе, чалавеча? Нам жа таксама патрэбна зарабіць тут капейку, калі ўжо не выехалі ў іншае месца! Ну а што рабіць з ураджаем, дык таксама няхай думае начальства. "Хіба давер такі да кіраўнікоў?" — пытаюся. "Даверу яшчэ менш, чым раней, але ж цяпер і жыць горай, чым даўней. Так што, які давер? Звычайны прыгон, толькі ў іншай форме".

— Колькі ж зямлі засяваецца цяпер на забруджанай тэрыторыі? — пацікавіўся я ў чалавека, які, здавалася б, быў дасведчаны ў махінацыі.

Той пацінуў плячамі, аднак стала зразумела, што ён такім чынам проста аднекваецца.

Між тым, скрозь пажарышчы за гэты час, як тут не быў я, прабілася трава. Усё навокал квола зазелянела. Нават на абгарэлых бярозках-самасейках адскочылі маленькія клейкія лісточкі. Але па-ранейшаму ні птушынага спеву, ні заячых скокаў. Няйначай, што сапраўды ўсё жывое зжэрла полымя.

Там, дзе хата цераз хату засталося жыць хоць дваццаць чалавек, працавалі магазіны. Упартым мужыкам, а найперш кабетам, прывозілі з раённага цэнтра хлеб па пэўных днях, гарэлку, кансервы з гародніны... На ганках такіх магазінаў цалюткі дзянёк прастойвалі тыя ж мужыкі ды бабы, прапівалі апошнія грошы, крычалі пра нешта сваё, ажно не было як пагаварыць з кім. "Кандыдат у дэпутаты?.. — часам прабівалася праз п'яны тлум думка. — Дык навошта нам твой партрэт? Мы ўвогуле ні за кога не збіраемся галасаваць".

І так вось ад шлагбаума да шлагбаума.

Нарэшце 9 мая, на дзень Перамогі, на гарадскім мітынгу старыя камуністы абвясцілі гараджанам і ўсім іншым, хто прымаў удзел у свяце: галасаваць трэба толькі за камуністаў. Чужак нам тут непатрэбны. А ў нас камуністаў хапае... У нас усе раённыя структуры складаюцца з камуністаў. І мы гэтым ганарымся. Мы не саступілі сваіх пазіцый нікому. Дык навошта саступаць іх у парламенце?"

Будучыя выбаршчыкі ў знак ухвалы запляскалі ў далоні. Мясцоваму кіраўніцтву засталося толькі даць участковым камісіям, таксама як і старшыням калгасаў пэўныя інструкцыі, з даволі катэгарычнымі патрабаваннямі. Цяпер ужо вакол райвыканкома, дзе размяшчалася і выбарчая камісія, усё больш збіралася газікаў з далёкіх і блізкіх вёсках. Таварыш Агееў адкрыта раіў галасаваць альбо за суддзю, альбо за дырэктара сельгасхіміі, мець свайго прадстаўніка ў парламенце заўсёды не лішне. На адной падобнай нарадзе нейкі дзівак спытаў: "Ну, а Чыгрынаў? Ён жа таксама наш. Ганаровы грамадзянін горада?" — "Наш ды не зусім наш", — адказаў старшыня гарвыканкома.

Пасля паездкі на перыферыю паспрабаваў я зноў пахадзіць у грамадскія калектывы. У сярэдняй школе мне сказалі: "Як пісьменніку, мы вам дадзім магчымасць выступіць. А пра дэпутацтва і не ўспамінайце. Вельмі сочыць мясцовае начальства за тым, каб вас не пускалі з выбарчымі справамі ў гарадскія памяшканні".

Цяжка было адмовіцца выступіць перад вучнямі старэйшых класаў, аднак я абмінуў рыфы, каб не нашкодзіць настаўнікам. Да таго ж, мне моцна дапамог Алесь Пісьмянкоў, які апынуўся на той час на Касцюкоўшчыне, дзе ў Бялынкавічах на беразе Бесядзі жывуць ягоныя бацькі.

Нарэшце цярплівасць мая скончылася, тым больш, што к гэтаму часу не далічыўся я і некаторых давераных асоб, нават кіраўнік групы перастаў наведваць, усё часцей знікаючы на два, тры дні. Да таго ж усім занёмым ужо зарзумела стала, што Ганаровага грамадзяніна горада выжываюць з выбарчай акругі. І я склаў свае рэчы ў партфель, купіў білет на цягнік Унеча—Гродна, сеў у купэ, балазе, што адзін апынуўся, і з крыўдай пачаў глядзець на краявіды ў акно. Вясна імкліва набірала моц. Тут, на паўднёвым усходзе Беларусі, яна выяўляе свае здольнасці хутчэй, чым у цэнтры ці на поўначы. Але дзіва, чым далей ад'язджаў ад станцыі Камунары, тым большай хімерай здавалася мая спроба каторы раз ужо кінуцца ў зусім непатрэбную для пісьменніка справу. Не ведаю, можа, вінаватай была ў маім новым адчуванні вясна і тая казуля, што выскачыла аднекуль па вадзе з-за ракітавых кустоў і спынілася крокаў за колькі ад рэйкаў, па якіх пагруквалі колы цягніка.

Усе мы імкнёмся кудысьці, ды мала думаем, ці чакаюць нас там. Між тым, сілаю любы не будзеш. Але ж я нарэшце пераканаўся — камуністы, мае камуністы, ні ў чым пакуль не змяніліся. Застаецца ранейшая жорсткасць у дасягненні мэты. А за жорсткасцю можа паследаваць і чорт ведама што!..

*(Працяг будзе)*

# НАПІСАЦЬ ПАДРУЧНІК — НЕ ЛАПАЦЬ СПЛЕСЦІ

***"ЛіМ" паведамляў ужо, што 7 верасня г.г. у Мінску адбылася спецыяльная нарада навукоўцаў і педагогаў, якая абмеркавала сітуацыю з падрыхтоўкай і выданнем новых падручнікаў па гуманітарных дысцыплінах для школ і ВНУ Беларусі. Па матэрыялах гэтай нарады Камісія Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны на сваім пасяджэнні 4 кастрычніка прыняла пастанову. Прапануем яе ўвазе чытачоў.***

За апошнія чатыры гады Міністэрствам адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь сумесна з навукова-метадычным цэнтрам вучэбнай кнігі і сродкаў навучання, які працуе пры міністэрстве, праведзена значная работа па распрацоўцы вучэбных кніг для сярэдняй школы і ВНУ па гістарычных і грамадазнаўчых дысцыплінах. У аснову гэтай работы былі пакладзены фундаментальныя палажэнні Закона "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь", прынятага Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь 29 кастрычніка 1991 года. Так, у артыкуле 3 названага Закона гаворыцца, што "дзяржаўная палітыка ў галіне адукацыі грунтуецца на наступных прынцыпах:

прыярытэт агульначалавечых каштоўнасцей;
нацыянальна-культурная аснова;
навуковасць;
арыентацыя на сусветны ўзровень адукацыі;
гуманізм;
сувязь з грамадскай практыкай /.../;
дэмакратызм..."

А ў артыкуле 4 таго ж Закона сцвярджаецца, што адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь "ажыццяўляецца для наступных мэт:

/.../ фарміравання і ўмацавання нацыянальнай свядомасці грамадзяніна Рэспублікі Беларусь /.../;

забеспячэння авалодання дзяржаўнай мовай як галоўным сродкам зносін паміж грамадзянамі Рэспублікі Беларусь;

захавання і размнажэння інтэлектуальнай уласнасці і культурных каштоўнасцей беларускага народа і іншых нацыянальных супольнасцей рэспублікі..."

У адпаведнасці з названымі прынцыпамі, творчым калектывам пад кіраўніцтвам доктара гістарычных навук, загадчыка аддзела Інстытута гісторыі АНБ М.В.Біча была, напрыклад, створана "Канцэпцыя гістарычнай адукацыі ў сярэдняй школе Беларусі". Праект Канцэпцыі ўпершыню быў апублікаваны ў "Настаўніцкай газеце" за 30.XI.1991 г. і сур'ёзна абмяркоўваўся навуковай і педагагічнай грамадскасцю краіны, пасля чаго быў дапрацаваны і пакладзены ў аснову новых праграм па гісторыі для сярэдніх школ (1-е выд. 1993, 2-е перапрац.выд. 1995 г.). Удакладненню асобных палажэнняў канцэпцыі быў прысвечаны шэраг дакладаў на Усебеларускай канферэнцыі гісторыкаў (Мінск, 1992 г.), іншых канферэнцыях, якія праводзіліся на базе навучальных і навукова-даследчых устаноў Беларусі. Метадычныя рэкамендацыі па выкладанні айчыннай і сусветнай гісторыі, распрацаваныя ў Міністэрстве адукацыі і навукі, рэкамендуюць настаўнікам сярэдняй школы карыстацца самымі рознымі дапаможнікамі і матэрыяламі, у тым ліку выдадзенымі ў мінулыя гады.

Дастаткова высокім навукова-метадычным узроўнем вылучаюцца выдадзеныя ў 1993—1995 гадах навучальныя дапаможнікі для ВНУ Беларусі: "Нарысы гісторыі Беларусі" ў "2-х частках, у стварэнні якога прымалі ўдзел усе вядучыя гісторыкі Акадэміі навук Беларусі, "Філасофія. Кароткі курс лекцый (аўтары Р.І.Бліхарж і інш.), "Асновы філасофіі", падрыхтаваныя калектывам вучоных Гродзенскага дзяржуніверсітэта пад кіраўніцтвам прафесара А.І.Бадакова, "Логика" пад рэдакцыяй прафесара В.Ф.Беркава, "Эканамічная гісторыя Беларусі" пад рэдакцыяй прафесара В.І.Галубовіча і іншыя.

Разам з тым, стварэнне высакаякасных падручнікаў і дапаможнікаў для сярэдняй і вышэйшай школы сутыкаецца з рознымі, не толькі фінансавымі, праблемамі. Агульнавядома, што якасныя падручнікі ствараюцца на працягу дзесяцігоддзяў, на конкурснай аснове. Міністэрства адукацыі і навукі яшчэ ў 1993 годзе аб'явіла конкурс па праграме "Абнаўленне гуманітарнай адукацыі ў Беларусі" з выкарыстаннем фінансавай падтрымкі Фонду Сораса—Беларусь. Пасля двух тураў конкурсу ў ім удзельнічае каля сотні праектаў, якія так ці інакш датычацца гістарычных і грамадазнаўчых навук. У аснове гэтых праектаў — разнастайныя канцэпцыі і падыходы, што цалкам адпавядае арт. 4 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, згодна з якім "дэмакратыя ў Рэспубліцы Беларусь устанаўліваецца шматстайнасцю палітычных інстытутаў, ідэалогій і думак".

Міністэрства адукацыі і навукі падтрымлівае і спрыяе кантактам беларускіх вучоных — гісторыкаў і грамадазнаўцаў з іх калегамі ў Расіі, Польшчы, Літве, краінах Заходняй Еўропы. Міжнародныя семінары і канферэнцыі па грамадазнаўчых дысцыплінах, у якіх бяруць удзел і прадстаўнікі міністэрства, зрабіліся ў апошнія гады звычайнай практыкай. Імёны такіх беларускіх гісторыкаў і грамадазнаўцаў, як В.Шалькевіч, А.Грыцкевіч, А.Міхайлаў і іншыя, вядомыя далёка за межамі Беларусі.

Камісія па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны прапануе:

— Інстытуту гісторыі АН Беларусі, кафедры беларускай і сусветнай гісторыі Белдзяржуніверсітэта, іншых ВНУ Беларусі арганізаваць на працягу 1995-1996 гадоў навукова-тэарэтычныя канферэнцыі па спрэчных пытаннях беларускай гістарычнай навукі, пашырыць кантакты з вядучымі гісторыкамі Расіі, Польшчы, Літвы, іншых краін з мэтай удакладнення агульных падыходаў у разуменні тых ці іншых падзей мінуўшчыны, а таксама падрыхтаваць неабходныя хрэстаматыі па гісторыі Беларусі;

— Міністэрству адукацыі і навукі:

а) выдаць на працягу 1995/96 навучальнага года наяўныя рукапісы дапаможнікаў па гісторыі для сярэдняй школы ў якасці дапаможных навучальных матэрыялаў;

б) пашырыць практыку перападрыхтоўкі настаўнікаў гісторыі Беларусі, арганізоўваць і праводзіць іх сустрэчы з вучонымі — аўтарамі падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў;

в) дазволіць настаўнікам выкарыстоўваць вучэбную і метадычную літаратуру альтэрнатыўнага зместу.

— Міністэрству культуры і друку арганізаваць падрыхтоўку і выданне перакладных дапаможнікаў па грамадазнаўчых дысцыплінах вядучых замежных аўтараў на аснове заключэння незалежных экспертных груп;

— Кабінету Міністраў:

а) знайсці магчымасць першачарговага фінансавання названых вышэй мерапрыемстваў;

б) уключыць у склад Дзяржаўнай камісіі па падрыхтоўцы падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў 1996-1997 гг. прадстаўнікоў розных навуковых школ і забяспечыць галоснасць работы гэтай камісіі;

в) прымаць удзел у фінансаванні выдання альтэрнатыўных падручнікаў і дапаможнікаў па грамадазнаўчых дысцыплінах.

# Лявон СЛУЧАНІН

25 кастрычніка 1995 года на 82-м годзе жыцця памёр беларускі пісьменнік Лявон Случанін (Лявонцій Раманавіч Шпакоўскі).

Нарадзіўся Лявон Случанін 15 кастрычніка 1914 года ў вёсцы Лучнікі, што на Случчыне. Пасля вучобы ў сямігодцы два гады займаўся ў Слуцкім педтэхнікуме, а затым — на літфаку Мінскага вышэйшага педагагічнага інстытута, які закончыў у 1936 годзе.

Далей жыццё Лявона Случаніна складвалася нялёгка і няпроста. Педагагічная дзейнасць перапынялася доўгімі гадамі паднявольнай працы на Беламорска-Балтыйскім канале, у Варкуцінскіх шахтах. Гэткім жа няпростым быў і яго творчы лёс.



Першыя вершы былі надрукаваны ў зборніку "Песняры Случчыны" (Мінск, 1943). Яго паэма "Рагнеда" выдавалася ў розныя часы ў Вільні (1944), у Аўстраліі (1958). У газеце "Калійшчык Салігорска" ў 1991—1992 гадах друкаваўся раман "Алесь Няміра". Асобныя творы змяшчаліся ў часопісах "Спадчына", "Полымя", "Беларуская думка".

З 1973 года Лявон Случанін жыў у горадзе Салігорску, супрацоўнічаў з мясцовым і рэспубліканскім друкам. Яго творчыя інтарэсы былі скіраваны, галоўным чынам, у гістарычнае мінулае Беларусі. У лепшых вершах і паэмах лёсы лірычных герояў цесна зніταваны з лёсам народа на яго крыжовых шляхах, шмат у чым яны сугучны з лёсам самога паэта. У архівах Лявона Случаніна засталося шмат неапублікаваных твораў, якія рана ці позна знойдуць свайго ўдзячнага чытача.

**САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ**

Пошта

# ЗА ШТО ПАКАРАЛІ ДЗЯЦЕЙ?

СЁЛЕТА не Міністэрства адукацыі і навукі, а сам прэзідэнт са сваёй камандай падбіраў тэксты дыктовак для ўступных экзаменаў у ВНУ. Выпадак не ардынарны. Падобнымі справамі прэзідэнт ні адной краіны ў свеце яшчэ не займаўся. На гэта ёсць адпаведныя ўстановы. Але наш прэзідэнт нікому не давярае, асабліва прафесіяналам. Чым гэта канчаецца — мы ўжо добра ведаем. Не выключэнне і гэтая акцыя. Яе можна было ўспрыняць як чарговае прэзідэнцкае шоу, калі б не такі сумны вынік: **к а л я 8 0 п р а ц э н т а ў а б і т у р ы е н т а ў з а в а л і л і п р э з і д э н ц к у ю д ы к т о ў к у**. Нанесена траўма тым, хто на працягу адзінаццаці гадоў старанна вучыўся, каб ажыццявіць мару — авалодаць спецыяльнасцю, якая дазволіла б найлепшым чынам паслужыць свайму народу. Асечка! Адсеяны найбольш свядомыя, тыя, хто аддаў перавагу дзяржаўнай і роднай беларускай мове, хто жадаў працягваць вучобу на ёй. **Хто вінаваты?** Настаўнікі? Самі абітурыенты? Але ж сярод іх нямала і медалістаў.

Мінская гарадская рада таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны не бярэцца высвятляць усе прычыны. Але зробім аналіз тэксту дыктоўкі (прыводзім яе цалкам).

## ФРАНЦЫСК СКАРЫНА Ў ПАДУІ

*Пятага лістапада тысяча пяцьсот дванаццатага года ў храме святога Урбана ў горадзе Падуі сабралася калегія найслаўнейшых падуанскіх дактароў мастацтваў і медыцыны, каб вырашыць пытанне аб допуску да экзаменаў на ступень доктара медыцыны Францыска Скарыны.*

*Выступаючы тут, намеснік кіраўніка калегіі адрэкамендаваў Скарыну як вельмі вучонага, але беднага юнака, які ўжо мае ступень доктара мастацтваў і які прыйшоў сюды з далёкіх зямель, размешчаных, бадай, за чатыры тысячы рымскіх міль і нават болей.*

*Пасля запрашэння калегіі ў залу ўвайшоў сам падарожнік. На ім быў убор чалавека, якога кормяць вольныя мастацтвы, — строгі каптан з квадратным выразам, але нязвычныя італьянцам вусы, валасы колеру восеньскай саломы і нетутэйшы халаднаваты блакіт вачэй выдавалі ў ім чужаземца.*

*Вучоныя мужы глядзелі на яго трохі насцярожана і з цікаўнасцю. Гэты малады доктар прыйшоў з паўночнай, амаль казачнай, краіны гіпербарэйцаў. Аўтары некаторых кніг сцвярджаюць, што зоркі свецяць там удзень і ўначы, а паветра замярзае і падае на дол; што золата ў той краіне нязмерна болей, чым жалеза; на гарадскіх вуліцах гуляюць белыя мядзведзі, а людзі, нераўнуючы як цыклопы, маюць па адным воку пасярод ілба.*

*Як ні дзіўна, вачэй у сына Лукі з Полацка было двое, і гаварыў ён на лаціне, якая нічым не саступала лацінскай мове прысутных. Францыск пацвердзіў свой намер здаваць экзамен, і паводле звычаю, дакляраваў паўсюль спрыяць славе Падуанскага універсітэта. Калі пачалося абмеркаванне, прамоўцы пазіралі на іншаземца, ужо не хаваючы прыхільнасці.*

*Пры галасаванні ўсе члены калегіі апусцілі шары ў чырвоную вазу — Скарыну было дазволена трымаць экзамен бясплатна.*

*(Паводле У. АРЛОВА).*

Нават першае прачытанне тэксту сведчыць, што пры падборы яго не бралася пад увагу **а д н о з а с н о ў н ы х п а т р а б а в а н н я ў — недапушчальнасць варыянтных напісанняў.**

Першы сказ другога абзаца мае дзве варыянтныя пунктаграмы. Слова "бадай" абітурыент меў права ўспрыняць не толькі ў значэнні "мабыць" (уводнага), але і "амаль". Цяжка было абітурыенту аднесці спалучэнне слоў "выступаючы тут" да дзеепрыслоўнага звароту. Дзеепрыслоўе абазначае дадатковае дзеянне, а тут прымета (які намеснік), як гуляючы (трэнер), думаючы (чалавек), лятаючы (апарат). Вядома, такія дзеепрыметнікі не шырокаўжывальныя ў беларускай мове, але ж яны ёсць. І абітурыент меў права кваліфікаваць выраз як неадасобленае азначэнне.

У сказе "На ім быў..." абавязковы працяжнік пасля слова "выразам" (канец прыдатка). **Г э т а п а м ы л к а.**

Пунктуацыйнае афармленне сказа "Гэты малады доктар..." залежыць ад інтанацыі. Словы "паўночнай", "казачнай" будуць аднароднымі азначэннямі, калі іх прачытаць з інтанацыяй пералічэння, а не ўдакладнення. Тады коска пасля "казачнай" не ставіцца.

Наступны сказ наўрад ці змог хто з абітурыентаў запісаць так, як у тэксце дыктоўкі. У ім таксама як мінімум дзве варыянтныя пунктаграмы. Па-першае, перад другім злучнікам "што" можна не ставіць кропкі з коскай (дастаткова коскі). Да таго ж з такімі выпадкамі абітурыенты не сустракаліся (у школьных падручніках такія пунктаграмы не даюцца). Па-другое, "не раўнуючы" абітурыент меў права кваліфікаваць як пабочнае слова, выдзеліць яго з двух бакоў.

Ці варта лічыць за памылку, калі ў першым сказе перадапошняга абзаца абітурыент не паставіў коску перад злучнікам "і"? Спалучэнне "як ні дзіўна" можна аднесці да абедзвюх частак складаназлучанага сказа.

У сказе "Францыск пацвердзіў..." дапушчана яшчэ адна **г р у б а я п а м ы л к а** — перад злучнікам "і", які звязвае аднародныя выказнікі, пастаўлена коска. (Коску трэба паставіць пасля выказніка, каб абазначыць пабочнае слова).

Абітурыенты таксама мелі права напісаць з вялікай літары назву храма — касцёла Святога Урбана.

Як бачым, дыктоўка падабрана на рэдкасць непрафесійна: у ёй дзве пунктуацыйныя памылкі, сем варыянтных пунктаграм і адна варыянтная арфаграма. Акрамя таго, у ёй на 20 слоў больш, чым дапускае норма.

У дыктоўках мінулых гадоў таксама сустракаліся варыянтныя напісанні, але члены прыёмных камісій дамаўляліся не лічыць іх за памылкі. Сёлета ж, напалоханыя Прэзідэнтам і інструктажам, прысутнасцю назіральнікаў, людзі працавалі, як робаты. Страх скаваў ініцыятыву. За памылку лічылі любое адступленне ад тэксту.

**І вось вынік: п а к а р а н ы д з е ц і, п а к р ы ў д ж а н ы б а ц ь к і і н а с т а ў н і к і**, засмучаны тыя, каму неабыякава будучыня беларускай нацыі, яе культуры.

Бацькі маюць права цераз суд апратэставаць вынікі ўступнага экзамена. У дэмакратычнай дзяржаве яно так і было б. Але не ў нашай. Прэзідэнт нават не палічыў патрэбным папрасіць прабачэння ў дзяцей.

Цяперашняе кіраўніцтва нават не хавае свайго абыякавага, а па сутнасці, варожага стаўлення да ўсяго беларускага. Таму ніякіх высноў з вынікаў экзаменацыйных работ рабіць не збіраецца. Менш за ўсё цікавіць кіраўніцтва пісьменнасць выпускнікоў, іх моўная культура. Наадварот. Мэтанакіравана, крок за крокам вядзецца разбурэнне беларускай нацыянальнай сістэмы адукацыі. Напярэдадні навучальнага года Міністэрства адукацыі і навукі разаслала па школах цыркуляр, які дазваляе дырэкцыі (вядома ж, па жаданні бацькоў) ствараць у беларускіх школах паралелі з рускай мовай навучання. У школах праведзены сходы бацькоў. Думкі выказваліся розныя. Але ў кіраўніцтва, якое зацікаўлена ў змене статуса школы, быў адзін важкі аргумент: ва універсітэтах вашы дзеці будуць вучыцца па-руску. І каб зняць з сябе ўсякія магчымыя абвінавачванні, кіраўніцтва брала ад бацькоў заявы з указаннем мовы навучання. Дэмакратыя захавана. А тое, што школа стала не дэмакратычнай (бо ў дэмакратычнай школе навучанне вядзецца на роднай мове дзяцей), дырэкцыю не цікавіць.

У бліжэйшы час у гарадах зноў, як і пяць гадоў назад, не будзе беларускіх школ. Бо з 3-4 паралельных класаў, як правіла, толькі адзін у лепшым выпадку застаецца беларускамоўным. Але пратрымаюцца ва ўмовах духоўнага генацыду гэтыя класы нядоўга, бо настаўнікам сапраўды няпроста працаваць у такіх школах (трэба набываць два варыянты метадычных дапаможнікаў і інш.). Патрабаванні аб захаванні адзінага моўнага рэжыму ў школе ігнаруюцца поўнасцю. У некаторых школах сталіцы на адным і тым жа ўроку вучаць і па-беларуску, і па-руску. Словам, "моўная трасянка" набывае статус афіцыйнай мовы навучання.

Ёсць выпадкі, калі паралелі не адкрываюцца. Так, у СШ 147 з мастацкім ухілам (дырэктар Цімафееў В. А.) усе тры другія класы зрабілі рускамоўнымі, хаця ёсць заявы бацькоў, якія жадаюць працягваць навучанне сваіх дзяцей на беларускай мове. Ім прапануюць перайсці ў іншыя школы. Але дзе яны? І паскардзіцца няма каму. Бо нават тыя кіраўнікі, якія прыхільна ставіліся да адраджэння беларускай школы, сёння вымушаны хаваць сваю пазіцыю дзеля ўласнага выжывання. Адноўлена практыка 30-ых гадоў, калі нацыянальна свядомых беларусаў здымалі з пасад (сёння гэта робіцца "па ўласным жаданні"). Так, па ўласным жаданні нядаўна звольнены аж тры намеснікі міністра адукацыі і навукі.

Дэнацыяналізацыя беларускага народа набывае новы паграмжальны імпульс. Удар наносіцца па адукацыі і мове. У той жа час Прэзідэнт у інтэрв'ю газеце "Известия" заяўляе аб неабходнасці абароны беларускай мовы.

Мінская гарадская Рада ТБМ імя Ф. Скарыны (яе пасяджэнне адбылося 19 верасня) пратэстуе супраць парушэння права беларусаў на адукацыю на роднай мове, парушэння Законаў аб мовах і аб адукацыі, Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і дзіцяці.

**Рада лічыць,** што трэба тэрмінова спыніць разбурэнне беларускай нацыянальнай сістэмы адукацыі. Захаваць, як гэта і вынікае з рэферэндуму аб мовах, сапраўдную роўнасць — не менш 50-ці працэнтаў беларускамоўных школ, у тым ліку і ў сталіцы Беларусі. Іншае супярэчыць вынікам рэферэндуму і здароваму сэнсу. Трэба стварыць рэальныя ўмовы для атрымання беларусамі вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі па ўсім спектры спецыяльнасцей на беларускай роднай мове.

**Рада прапануе** стварыць дзяржаўную камісію для перагляду экзаменацыйных дыктовак абітурыентаў 1995 года па тэксце "Францыск Скарына ў Падуі", гарантаваць абітурыентам, якія напісалі дыктоўку на "4" і "5", залічэнне ў ВНУ без уступных экзаменаў.

Рада заклікае грамадзян Беларусі не паддавацца на прапаганду праціўнікаў вяртання беларусам іх роднай мовы, культуры і гістарычнай памяці, адстойваць сваё права вучыць дзяцей на роднай мове: памятаць, што недалёка той час, калі ўсе вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя ўстановы, як ва ўсіх народаў свету, будуць працаваць на беларускай мове, а грамадства будзе жыць у беларускамоўным інфармацыйным асяроддзі. Нашы дзеці павінны быць падрыхтаваны да гэтага.

**М. САВІЦКІ, прафесар, старшыня Мінскай гарадской рады таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны**

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Мемуары — гэта кіно, мастацкае, не дакументальнае, з мінулага высякаецца адно — адвольна і выбіральна. І паўстае ў аб'ектыве перакуленая перспектыва, лятучая замець успамінаў без памяці. Пра мінулае стужка, а сучаснае ў дужках.

●

Аповесць пра дрэва, якое трапіла ў кацёл, дзе вараць паперу, лягло на стол пісьменніка, стала рукапісам, доўга ляжала ў выдавецтве і зрабілася нарэшце кнігай, пра тое, як кніга ніяк не прадавалася, бо роднай мове ўжо не вучылі, зарплата ў людзей была нізкай і ўсё каштавала ў тысячу разоў больш, чым раней, пра тое, як кнігу спісалі ў макулатуру і яна папала ў кацёл, дзе з яе зноў зварылі паперу, але ўжо абгортачную.

●

Непераможная і легендарная... Былая слава — справа марная. Як сведчаць акцыі апошнія: не легендарная, бездапаможная.

●

Вандэйская хроніка. Жыхары вёскі Стронцыя на Палессі з цікавасцю сустрэлі заяву дзяржаўнага дзеяча, што ў забруджаных радыяцыяй раёнах прадукты экалагічна чысцейшыя, чым у іншых рэгіёнах краіны. Калі так, заяўляюць палешукі, хай дзяржаўны дзеяч прыязджае да нас як мага часцей.

●

З Марцыяла. Нас дагала раздзяваюць, захоўваючы манеры: вымушаны, кажуць, пайсці на непапулярныя меры.

●

Сусед, як кульне, разважае пра годнасць: — Няхай бы і нам выдавалі за шкоднасць. — Якая там шкоднасць у вашага брата? — А то ж — месяцамі не бачым зарплаты.

●

Мы ўсе ў агромністай той грамадзе, што яшчэ пачалася з "А хто там ідзе?" Мы народ у хадзе, мы народ у бядзе, і ці спыніць нас грознае "Стой, хто ідзе?"

●

— Унучак, смех мяне бярэ, няўжо гарэлка дваццаць рэ? — Ну што ты, дзед, не рэ, а тэ, чытай як дваццаць тысяч рэ. — Унучак, мусім усё-ткі браць, бо заўтра будзе дваццаць пяць.

●

Якой мы ўсе нацыі, якой намінацыі? Еўрапейцы ці азіяты, разумныя ці вар'яты? А можа, капнуць глыбей, мальцы, — сінантропы і неандэртальцы?

●

Смешнае ці пагрозлівае, здаровыя ці з болькамі, слухаем аднолькава, чуем па-рознаму. Нешта недачуваем, а вітаем і адвяргаем.

●

У суседкі па нумары высокая тэмпература, бегала па калідорах, шукала ёй сястрычку, ля тэлевізараў сустракалі хмура, чаго яна хвалюецца, істэрычка. Ну які там, скажыце, у чалавека цяжар, тэмпература — не пажар, а калі і пажар, дык ці нам гарэць, дала б "Санта-Барбару" даглядзець. Сказана не ў дакор чалавечаму матэрыялу, ва ўхвалу знакамітаму серыялу.

ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| *Х. Дунец* | (1932-35) |
| *І. Гурскі* | (1935-41) |
| *А. Куляшоў* | (1945-46) |
| *М. Горцаў* | (1947-49) |
| *П. Кавалёў* | (1949-50) |
| *В. Вітка* | (1951-57) |
| *М. Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я. Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н. Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л. Прокша* | (1969-72) |
| *Х. Жычка* | (1972-76) |
| *А. Асіпенка* | (1976-80) |
| *А. Жук* | (1980-86) |
| *А. Вярцінскі* | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:** Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Жана ЛАШКЕВІЧ, Алесь МАРЦІНОВІЧ, Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,* Юрась СВІРКА, Віктар ШНІП — *намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:** 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985
аддзелы:
публіцыстыкі — 332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985
літаратурнага жыцця — 332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 332-204
паэзіі і прозы — 332-204
музыкі — 332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462
навін — 332-462
мастацкага афармлення — 332-204
фотакарэспандэнт — 332-462
бухгалтэрыя — 268-640



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра "ЛіМ"**
Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма "Дайнова"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 6459.
Нумар падпісаны 9.11.1995 г.
Заказ 5673/Г

П123456789101112
М123456789101112